

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**ПЯТНІЦА, 4 жніўня 1989 г. № 31 (3493) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**


## У ІНТАРЭСАХ НАРОДА

28—29 ліпеня ў Мінску адбылася XI сесія Вярхоўнага Савета БССР адзінаццатага склікання. Пасля зацвярджэння парадку дня сесіі першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў паведаміў, што ў сувязі з выбраннем народнага дэпутата СССР Г. С. Таразевіча старшынёй Пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета СССР уносіцца прапанова вызваліць яго ад абавязкаў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Я. Я. Сакалоў ад імя Вярхоўнага Савета рэспублікі падзякаваў Г. С. Таразевічу за добрасумленную плённую работу.

Вярхоўны Савет БССР прыняў пастанову аб вызваленні Г. С. Таразевіча ад абавязкаў Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

Далей Я. Я. Сакалоў сказаў, што на праведзеным напярэдадні пленуме ЦК КПБ было вырашана рэкамендаваць на гэтую высокую пасаду сакратара ЦК КПБ М. І. Дземянцея.

Гэтую прапанову падтрымалі Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, партыйная група і Савет старэйшын Вярхоўнага Савета БССР.

Выступіўшыя. пры абмеркаванні прапанаванай кандыдатуры дэпутаты А. Ц. Караткевіч, М. М. Бусько, Н. С. Гілевіч, М. І. Усцін, А. М. Марынычава, У. Л. Бядуля, М. І. Гіруць, У. А. Карпаў, А. С. Шарановіч, Г. У. Ерамееў, І. Г. Чыгрынаў, падтрымліваючы кандыдатуру, выказалі рад заўваг і прапаноў, якія будучаму старшыні неабходна ўлічыць у сваёй рабоце.

Перад удзельнікамі сесіі выступіў М. І. Дземянцей.

Абсалютнай большасцю галасоў М. І. Дземянцей быў выбраны Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР.

На сесіі з дакладам «Аб Дзяржаўнай праграме па ліквідацыі ў Беларускай ССР вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС» выступіў першы намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР У. Г. Еўтух.

Садаклад камісіі па ахове здароўя і сацыяльным забеспячэнні, па ахове прыроды і рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў зрабіў дэпутат У. І. Ганчарык.

У спрэчках па пытанні аб дзяржаўнай праграме па ліквідацыі вынікаў аварыі выступілі дэпутаты: У. М. Слесар, М. Ф. Грынёў, У. С. Улашчык, А. В. Сцепаненка — віцэ-прэзідэнт АН БССР, народны дэпутат СССР В. І. Бурскі — старшыня выканкома Брэсцкага абласнога Савета народных дэпутатаў, народны дэпутат СССР А. І. Цішкевіч, Р. З. Грышчанкоў, І. М. Смоляр, М. П. Курака, У. В. Кавалёнак, І. А. Кенік, Н. К. Прыбылова — прафесар Курскага медыцынскага інстытута, народны дэпутат СССР, І. В. Кулай, М. П. Бяганскі, З. Л. Еўдакімава, Э. Ф. Голубаў, Л. К. Сухнат, В. А. Вайцешак, С. С. Шушкевіч — прарэктар па навуковай рабоце БДУ імя У. І. Леніна, народны дэпутат СССР, І. М. Нікітчанка, У. К. Кашперка — механізатар саўгаса «Стралічава» Хойніцкага раёна, народны дэпутат СССР, Э. А. Пятровіч, Б. П. Савіцкі — загадчык кафедры заалогіі і аховы прыроды Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны, прэзідэнт Беларускага экалагічнага саюза, Ю. В. Дубіна — намеснік дырэктара Інстытута ядзернай энергетыкі АН БССР, В. А. Казлоў — старшыня Дзяржкамітэта БССР па ахове прыроды, Я. Ц. Барабанаў — старшыня Кармянскага райвыканкома, М. М. Бусько, І. М. Лучанок — старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны дэпутат СССР, І. І. Ліштван — віцэ-прэзідэнт АН БССР, А. М. Ганчарэнка — галоўны вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР, Н. С. Гілевіч, Г. У. Ерамееў, У. П. Платонаў, В. Х. Дагужыеў — намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР.

З заключным словам выступіў дэпутат У. Г. Еўтух.

Вярхоўны Савет па абмеркаваным пытанні прыняў пастанову.

Па прапанове старшыні Вярхоўнага Савета БССР дэпутата І. Я. Навуменкі ўтворана Пастаянная камісія па пытаннях ліквідацыі вынікаў аварыі на Чарнобыльскай АЭС Вярхоўнага Савета БССР. Яе старшынёй выбраны дэпутат І. М. Смоляр — сакратар Гомельскага абкома КПБ.

На сесіі была прынята Пастанова аб утварэнні пры Вярхоўным Савеце БССР Камісіі па аказанні садзейнічання ў забеспячэнні правоў і інтарэсаў рэабілітаваных і ўвекавечання памяці ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30—40-ых і пачатку 50-ых гадоў. Па прапанове намесніка старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. А. Мікуліча ўтворана Камісія Вярхоўнага Савета БССР па падрыхтоўцы прапаноў аб заканадаўчым урэгуляванні статусу беларускай, рускай і іншых моў, якімі карыстаецца насельніцтва Беларускай ССР.

Свой пункт погляду па гэтым пытанні выказаў дэпутат І. Г. Чыгрынаў.

Па дакладзе сакратара Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. М. Сыраегінай Вярхоўны Савет зацвердзіў указы, унесеныя Прэзідыумам Вярхоўнага Савета рэспублікі.

З вялікай прамовай на сесіі выступіў першы сакратар ЦК КПБ дэпутат Я. Я. Сакалоў.

**Па матэрыялах БЕЛТА.**

## Пастанова Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

### Аб выбранні тав. Дземянцея М. І. Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

Вярхоўны Савет Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі **пастанаўляе:**

Выбраць тав. **Дземянцея** Мікалая Іванавіча Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

**Намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. МІКУЛІЧ.**

**Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР Л. СЫРАЕГІНА.**

28 ліпеня 1989 года, г. Мінск.

## Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР

## ДЗЕМЯНЦЕЙ Мікалай Іванавіч



Тав. Дземянцей М. І. нарадзіўся ў 1931 годзе. Беларус. Член КПСС з 1957 года. Адукацыя вышэйшая — закончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію і Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС.

Працоўную дзейнасць пачаў выкладчыкам Віцебскай сельскагаспадарчай школы пасля заканчэння ў 1952 годзе Смальянскага сельскагаспадарчага тэхнікума, затым працаваў галоўным аграномам, дырэктарам Трудаўской МТС Полацкага раёна. З 1958 года—інструктар Віцебскага абкома, другі сакратар Віцебскага райкома партыі, старшыня выканкома Віцебскага раённага Савета народных дэпутатаў. У 1962—1964 гг. вучыўся ў Вышэйшай партыйнай школе пры ЦК КПСС. У 1964—1966 гг. працаваў інструктарам, намеснікам загадчыка сельскагаспадарчага аддзела Віцебскага абкома Кампартыі Беларусі. З 1966 г. — першы сакратар Ушацкага райкома, з 1969 г. — загадчык сельскагаспадарчага аддзела Віцебскага абкома партыі, з 1970 г.—інспектар ЦК КПБ. З 1974 г. — сакратар Віцебскага абкома КПБ, з 1977 г.—загадчык сельскагаспадарчага аддзела ЦК Кампартыі Беларусі.

З красавіка 1979 г. — сакратар ЦК Кампартыі Беларусі.

Тав. Дземянцей М. І. член Бюро ЦК Кампартыі Беларусі, народны дэпутат СССР, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР. Выбіраўся дэлегатам XXVII з'езда КПСС, узнагароджан ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, трыма ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэнам «Знак Пашаны», двума медалямі.

**З ПОШТЫ ГЭТАГА ТЫДНЯ**

## Што будзе з дзецьмі?

**У друку паведамлялася, што па просьбе ўрада СССР Сусветная арганізацыя аховы здароўя нядаўна накіравала групу экспертаў у нашу рэспубліку. На чацвёрты год пасля чарнобыльскай трагедыі эксперты наведалі Гомельскую і Магілёўскую вобласці. Няхай мне даруюць вучоныя з сусветнымі імёнамі, але я хачу сказаць вось пра што.**

**Ці правяралі гэтыя вучоныя забруджанасць глебы, раслін— напрыклад, бульбы і цыбулі на нашых агародах? Ці праверылі яны стан здароўя нашых дзяцей?**

**У год аварыі я сваю бульбу праверыла ў мясцовай лабараторыі і мне сказалі: усё ў норме, ешце, колькі заўгодна. Пасля гэтага я некалькі разоў здавала бульбу дзяржаве. А сёлета нарыхтоўшчыкі патрабавалі ад мяне даведку ў лабараторыі. І выявілася, што забруджанасць бульбы перавышае норму ў 2,5 раза!**

**На пачатку лета ў нашай вёсцы па паказчыках дазіметра выпраменьванне было 0,2—0,3 мілірэнтгена ў гадзіну. А бліжэй да лесу — больш. Вялікая радыеактыўнасць у дрывах. А ўзровень радыяцыі попелу вышэйшы, чым у дрывах, у 10—15 разоў.**

**Я лічу, што так званая канцэпцыя 35 бэр (столькі нібыта можна набраць за жыццё без шкоды для здароўя) абсалютна не ўлічвае ўмоў вёскі. Скажу, для прыкладу, пра нашу. У першы год школу ў нас закрылі з-за высокай радыяцыі. Але ж дзецям — нават 1-га — 3-га класаў — давялося хадзіць у суседнюю вёску за пяць кіламетраў пешшу. Толькі ў канцы мінулага года пусцілі праз нашу вёску аўтобус, але ездзіў і ездзіць ён у самы нязручны для школьнікаў час.**

**На дарозе ж, вядома, летам пыл слупам, восенню — гразь. Асфальтаваць дарогі ў нашым раёне, або пасыпаць іх гравіем пачалі толькі сёлета.**

**Не абсталяваны ў нас і калодзежы. На нашым, напрыклад, няма герметычнай накрыўкі. У 1987 годзе правялі вадаправод, але вада ў дамы па ім дагэтуль не паступае.**

**А дэзактывацыя, на якую выдаткавана столькі грошай? Што яна дала? У нашай вёсцы перакрылі дахі ўсяго на некалькіх хацінах. А астатнія толькі мылі спецрастворам, ды і тое рабілі не кожны год.**

**Я ўпэўнена, што «лішнюю» дозу мы набралі ўжо ў першыя два гады пасля аварыі. У маіх дзяцей — іх трое — захворванне шчытападобнай залозы рознай ступені. Дзеці раней ніколі ангінай не хварэлі, а тут адразу ў дваіх — хранічны танзіліт. Лячыць жа дзяцей, уладкоўваць іх у санаторыі, лагеры даводзіцца самой, фактычна за свае грошы. Нават 30 рублёў «гробовых» у свой час трэба было з боем выбіваць.**

**Дзе ж справядлівасць? Хіба гэта мы праводзілі тыя небяспечныя эксперыменты на ЧАЭС? Чаму мы цяпер павінны расплачвацца?**

**У мяне трапечацца сэрца, калі я даю сваім дзецям есці: а што, калі я іх атручваю нейкім цэзіем або стронцыем? Не дае спакою балючая думка: што будзе далей з дзецьмі? І такія жахлівыя пачуцці, упэўнена, адчуваюць усе маці. Так жыць больш немагчыма. Трэба як мага хутчэй адсяляць людзей з заражанай мясцовасці — і ў першую чаргу сем'і, дзе ёсць хворыя дзеці.**

**Л. СЦЕПАНЕНКА,** пенсіянерка.

Вёска Рудня, Кармянскі раён.

# ПЛЁН ДЫСКУСІЙ І НАПРУЖАНАЙ РАБОТЫ

## ПЕРШАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР

У Маскве заканчвае работу першая сесія Вярхоўнага Савета СССР. Два месяцы, што мінулі пасля З'езда народных дэпутатаў СССР, былі насычаны дыскусіямі і напружанай работай: утвораны камісіі палат і камітэты Вярхоўнага Савета, сфарміраваны ўрад. На мінулым тыдні дэпутаты дадаткова разгледзелі і зацвердзілі кандыдатуры на пост першага намесніка Старшыні Савета Міністраў СССР, старшыні Дзяржаўнай камісіі па харчаванні і закупках У. В. Нікіціна і на пост старшыні Дзяржкамітэта СССР па цэнах В. К. Сянчагава.

І, нарэшце, дэпутаты Вярхоўнага Савета прыступілі да сваёй галоўнай місіі — заканадаўчай.

Беспрэцэдэнтнай, можна сказаць — гістарычнай падзеяй сталі разгляд і прыняцце прапаноў рэспублік савецкай Прыбалтыкі аб пераходзе іх на гаспадарчы разлік і поўную эканамічную самастойнасць. Пасля доўгіх і драматычных дэбатаў і нялёгкага кампрамісу дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР пераважнай колькасцю галасоў прынялі пастанову аб прапановах Вярхоўных Саветаў Літоўскай, Латвійскай і Эстонскай ССР аб пераходзе гэтых рэспублік на гасразлік. Акрамя таго, была прынята пастанова аб прапановах Вярхоўных Саветаў Літоўскай і Эстонскай ССР аб пераходзе іх на эканамічную самастойнасць. Камітэтам Вярхоўнага Савета СССР сумесна з прадстаўнікамі Літвы, Латвіі і Эстоніі даручана падрыхтаваць і прадставіць да 1-га кастрычніка гэтага года дапрацаваны з улікам заўваг і прапаноў дэпутатаў праект Закона.

Прыняцце гэтых пастаноў, па сутнасці, запаліла зялёнае святло для паскоранай падрыхтоўкі да пераходу на гаспадарчы разлік усіх саюзных рэспублік.

Дэпутаты Вярхоўнага Савета зацвердзілі або прынялі з папраўкамі і дапаўненнямі шэраг важных указаў: «Аб дадатковых мерах па аднаўленні справядлівасці ў адносінах да ахвяр рэпрэсій, якія мелі месца ў перыяд 30 — 40-х і пачатку 50-х гадоў», «Аб скарачэнні Узброеных Сіл СССР і расходаў на абарону на працягу 1989 — 1990 гадоў», «Аб арэндзе і арэндных адносінах» і іншыя. Некаторыя з прапанаваных на зацвярджэнне ўказаў — скажам, «Аб падаходным падатку кааператываў», выклікалі неадназначную рэакцыю дэпутатаў і бурныя дэбаты. У выніку некалькі ўказаў вярнуліся ў камітэты і камісіі на істотную дапрацоўку.

Па шматлікіх прапановах былі ўнесены важныя змены ў заканадаўства аб пенсійным забеспячэнні і некаторых відах дапамогі. Мінімальны памер пенсій будзе павышаны з 1-га кастрычніка.

У ход сесіі ўносіла карэктывы само жыццё. Шмат часу заняло абмеркаванне сітуацыі ў краіне, якая склалася ў выніку забастовак шахцёраў. Абмеркаванне патрабаванняў забастоўшчыкаў завяршылася прыняццем Звароту Вярхоўнага Савета да савецкага народа. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: «Вярхоўны Савет лічыць мэтазгодным па магчымасці наблізіць будучыя выбары ў мясцовыя Саветы і правесці іх на сапраўды дэмакратычнай аснове...» Было прынята таксама рашэнне падрыхтаваць прапановы аб неабходных зменах у Канстытуцыі СССР, якія тычацца выбараў.

На сесіі разглядаліся і важныя знешнепалітычныя пытанні. 1-га жніўня па гэтых пытаннях выступіў Старшыня Вярхоўнага Савета СССР М. С. Гарбачоў.

Дэпутаты прынялі Зварот да кангрэса ЗША па пытаннях мараторыя на ядзерныя выбухі і спынення ядзерных выпрабаванняў.

У рабоце савецкага парламента пачынаюцца «канікулы». Але многія парламентарыі ўжо зараз пачалі падрыхтоўку да восеньскай сесіі і да другога З'езда народных дэпутатаў СССР. Наперадзе прыняцце важнейшых законаў і рашэнняў, ад якіх залежыць лёс перабудовы, лёс народа.

*Надзённыя радкі*

**Кастусь ЦВІРКА**

# ЦІ Ж Я ВІНАВАТЫ?..

Асобныя высокапастаўленыя работнікі партапарату, якія былі забаланціраваны на выбарах у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, сваё паражэнне растлумачваюць тым, што выбаршчыкі звязвалі з імі «напластаванні недахопаў у сацыяльнай сферы, якія назбіраліся на працягу дзесяцігоддзяў...», хоць, як клянуцца гэтыя работнікі, не яны асабіста вінаватыя ў памылках часоў застою, а вышэйстаячае кіраўніцтва...

(З газет).

Хаця я і ў Крэсле, памылкі застою
Не мною учынены, людцы, не мною!
Я ж кволае толькі дзіцё апарату...
Ці ж я вінаваты?

Так, лейцы ў мяне, так, я чын між чынамі,
Але й нада мной рой чыноў з бізунамі —
Я ж слухаць павінен сваіх паганятых!..
Ці ж я вінаваты?

Лавіў я каманды Адтуль, пастановы.
Хоць многа было з іх тупых, безгаловых,
Я ўсе іх выконваў без слова, заўзяты...
Ці ж я вінаваты?

Калі б загадалі: хадзіць на галовах,
Разбіўся б, ды выканаў я пастанову:
Хадзілі б усе ўверх нагамі штодня тут!
Ці ж я вінаваты?

За верную службу не быў я забыты:
Адзет ды абут быў і меў спецкарыта —
Паесці й папіць я вялікі аматар...
Ці ж я вінаваты?

Каб мне ў цёплым Крэсле сваім утрымацца,
Стараўся я ў крук перад Нейкім згінацца,
Чынам біць паклоны, лізаць усім пяты...
Ці ж я вінаваты?

Я быў калуном іх, я быў таўкачом іх,
Быў самым адданейшым паслугачом іх,
Хоць зваўся я партыі верным салдатам.
Ці ж я вінаваты?

Гуртом давялі мы пад бездань краіну?
Але ж не маіх тут памылак лавіны!
Я ж толькі спускаў у нізы іх, як кляты!
Ці ж я вінаваты?

# ЗАПРАШАЕ «РОДНЫ СКЛОН»

«Магчыма, усяго некалькі крокаў аддзяляе нас ад мяжы, за якой — нацыянальнае абязлічванне. Перад ёй — пакуль яшчэ не позна — спыніцца, азірнуцца, угледзецца ў сваю шматвекавую гісторыю і культуру, усвядоміць, нарэшце, тое, ад чаго мы вольна-міжвольна адмаўляліся дзесяцігоддзямі. Пагадзіцеся, вяртанне да вытокаў — гэта шлях наперад».

Гэтыя словы папярэднічалі ў адным з нумароў «Знамени юности» на мінулым тыдні новай, крыху нечаканай рубрыцы — «Родны склон».

Матэрыялы, якія будуць змяшчацца пад гэтай рубрыкай, газета мяркуе публікаваць на беларускай мове. «Рэдакцыя спадзяецца, — гаворыцца ў зვароце да чытачоў, — што новая рубрыка зможа задаволіць у людзей інтарэс да мінулага беларускага народа, яго мовы, традыцый і культуры, што з'явіўся ў апошні час».

У першым выпуску В. Вячорка знаёміць са значэннямі спалучэння «Добры дзень». С. Дубавец запрашае да гаворкі пра беларускую літаратуру, значэнне якой, як прызнаецца, і сам не адразу ацаніў. А. Хатэнка расказвае пра народныя звычаі. Друкуецца «Эмігранцкая песня» М. Багдановіча, адзін з твораў Я. Лёсіка. Змешчаны здымак старога Мінска...

«Родны склон» запрашае чытачоў «Знамени юности» на сустрэчы з беларускім словам.

**НАШ КАР.**

# ТЭРМІН КОНКУРСУ ПЕРАНОСІЦЦА...

У сувязі з просьбай калектываў мастакоў і архітэктараў БССР аказаць дапамогу ў больш глыбокім вывучэнні спадчыны Францыска Скарыны, звязанай са знаходжаннем яго ў Польшчы і Чэхаславакіі, і ўлічваючы спецыяльна арганізаваную турыстычную паездку з гэтай мэтай вялікай групы мастакоў у ліпені г. г., калегія Міністэрства культуры БССР, Мінгарвыканком, прэзідыум праўлення Саюза мастакоў БССР, прэзідыум праўлення Саюза архітэктараў БССР, прэзідыум праўлення Беларускага фонду культуры ў частковае змяненне аналагічнай пастановы № 3 ад 30.01.89 г. пастанавілі перанесці тэрмін аб'яўленага адкрытага рэспубліканскага конкурсу на лепшы праект помніка Ф. Скарыне ў г. Мінску з 1 жніўня на 3 кастрычніка г. г.

# ЯКОЙ БЫЦЬ ЭМБЛЕМЕ ТБМ?

Рада Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны аб'яўляе конкурс на эскіз эмблемы таварыства, нагрудных значкоў двух відаў (для сталых людзей і сяброў юнацкіх секцый ТБМ), вымпела і плакатаў ТБМ.

Пераможцы па выніках конкурсу зоймуць пачэснае месца ў гісторыі Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны. Матэрыялы тых са спаборнікаў, хто не трапіць у лік пераможцаў конкурсу, будуць скарыстаны, са згоды аўтараў, у якасці эскізаў паштовак, плакатаў, значкоў, графічных знакаў і інш. у далейшай выдавецкай і гаспадарчай дзейнасці таварыства.

Конкурс праводзіцца на грамадскіх асновах. Тэрмін конкурсу—тры месяцы з часу апублікавання гэтага запрашэння-аб'явы.

Матэрыялы просім дасылаць або перадаваць па адрасу: 220034, г. Мінск, вул. Фрунзе, 5, Дом літаратара, пакой 306.

**Я. ЦУМАРАЎ.**

У Беларусі знаходзілася вялікая група амерыканскіх журналістаў, якія працуюць над кнігай аб перабудове ў савецкім грамадстве, аб працэсах галоснасці і дэмакратызацыі. Сярод іншых сустрэч госці мелі гутарку ў Саюзе пісьменнікаў БССР з першым сакратаром праўлення СП БССР Н. Гілевічам. Амерыканскія журналісты цікавіліся рознымі аспектамі культурнага і літаратурнага жыцця рэспублікі, асаблівасцямі дзейнасці Саюзаў пісьменнікаў і журналістаў. Закраналіся і традыцыйныя для замежных гасцей пытанні «свабоды слова», «свабоды сумлення», цэнзуры. Не былі абдзелены ўвагай чарнобыльская тэма, праблемы нацыянальна-культурнага жыцця.

Гэты здымак наш няштатны карэспандэнт **А. КАЛЯДА** зрабіў у час гутаркі ў Саюзе пісьменнікаў БССР.

*На тэму дня*

# «ЦІХІЯ» ВЫБАРЫ

Пошту я атрымліваю раніцай. Таму вельмі здзівіўся, калі надвячоркам 25 ліпеня заўважыў у сваёй паштовай скрынцы нейкую белую паперу. Адамкнуў. Аказалася, паперка не адна, іх роўна столькі, колькі «паважаных таварышаў» жыве ў маёй кватэры. Абвёў вокам суседнія скрынкі — праз круглыя дзірачкі дзе-нідзе таксама свbadзіліся белыя лісткі. Гэта быў зварот да кожнага: «Паважаны таварыш (...) Паведамляем Вам, што ў адпаведнасці з артыкулам (...) на ЧАЦВЕР, 27 ЛІПЕНЯ 1989 года, назначаны выбары ў Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў па выбарчай акрузе (...) замест выбыўшага дэпутата (...)» І подпіс: «Акруговая выбарчая камісія».

Я разгубіўся. Пачаў успамінаць, ды так і не ўспомніў, хто ж быў у нас дэпутатам і па якой прычыне ён выбыў. Успамінаў, ды так і не ўспомніў, хто ж вылучаны новым кандыдатам па нашай акрузе. Зрабілася сорамна: аказваецца, я зусім дрымучы чалавек, трэба ж гэтак адстаць ад жыцця — для мяне быццам і рэвалюцыі не было, і перабудова не пачыналася, і паведамленні ў вячэрняй газеце пра дадатковыя выбары быццам не для мяне друкуюцца.

У тую ж хвіліну я, як добры абывацель, пачаў шукаць вінаватых. Пачаў гартаць «Вячорку». Чаму гарадская газета не вяла гучную перадвыбарчую кампанію? Давыбары ж дэпутатаў у гарсавет бываюць па ўсім Мінску, не толькі ў нашым раёне!..

Ды раптам зрабілася так сорамна за свой абывацельскі імпэт, што я ці не ўголас папрасіў прабачэння ў зусім не вінаватых калег з вячэрняй гарадской газеты. Я ж ледзь не паставіў знак роўнасці паміж гарадскім Саветам народных дэпутатаў (а дакладней — яго выканаўчым камітэтам), ягонай газетай і супрацоўнікамі рэдакцыі!

Сапраўды, не журналісты ж даўмеліся ладзіць гэтыя «ціхія» выбары! У разгар лета, калі многія гараджане ў адпачынках ці ездзяць на працу ў Мінск з навакольных дач. У разгар галоснасці, пасля такога рэвалюцыйнага скачка на выбарах у Вярхоўны Савет краіны, пасля такіх «непрычасаных» штодзённых рэпартажаў з пасяджэнняў у Крамлі, пасля неаднаразовых заяў з трыбуны Сесіі пра тое, што Саветы народных дэпутатаў на месцах фактычна перасталі працаваць, іхнія функцыі шмат дзе ўзялі на сябе дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР, да якіх звяртаюцца людзі, таму трэба як мага хутчэй абнаўляць закон і праводзіць выбары ў рэспубліканскія і мясцовыя Саветы.

...Назаўтра ля ўсіх пад'ездаў прышпілілі яшчэ па дзве паперы (хто там скардзіўся на папяровы дэфіцыт?). Большая — накшталт чорна-белага плакаціка, меншая — накшталт кароткай біяграфіі кандыдата. (Твар яго нам так і не паказалі: не паспелі зрабіць фотакартку?) Можа, ён і добры хлопец. Толькі чаму пагадзіўся ўдзельнічаць у такой не зусім дэмакратычнай акцыі? І незразумела, хто і калі вылучаў яго і чаму адно толькі яго? А раптам не набярэ галасоў? І калі набярэ, дык што з гэтым хлопцам будзе праз паўгода, як пачнуцца ў горадзе сапраўдныя выбары, па новым законе?

Думаў я сабе гэтак, і ўспомніў вядомы і выдатны фільм пра рэвалюцыю: на млын, кінуты гаспадаром, трапляюць, як у дзяцінстве казалі, «нашы» і «не нашы», усчынаецца паядынак. Раптам — незабыўны кадр: пачуўшы шум, пайшла па крузе, варочаючы драўляны барабан з жорнамі, старая зашораная каняжына. Фільм я бачыў у розныя гады, але ніколі не пацяшаўся з гэтага кадра. Я з нейкім асаблівым пачуццём шкадаваў старога каня.

І, можа, таму так шчымліва зрабілася мне на сэрцы, калі я падумаў пра інстынктыўную, не ўзгодненую з рэальнай грамадска-палітычнай сітуацыяй, стараннасць тых сумленных і дысцыплінаваных людзей, якія выконвалі старую інструкцыю і з дапамогай экстранных выбараў (а фактычна — прызначэння) ліквідоўвалі вакансію ў дэпутацкім корпусе. Так рабілі яны ва ўсе ранейшыя, «дарэвалюцыйныя», часы...

Людцы, дарагія, ну што пасля гэтага — абурацца, спачуваць, пацяшацца ці плакаць ад сораму трэба? Я дык не ведаю і слоў ужо ніякіх не маю, бо грамадзяне нашага раёна паказалі ў цэлым высокі ўзровень свядомасці і дысцыпліны. Выбары прайшлі арганізавана. Як і ўсе колішнія «бясшумныя» выбары.

**ЛІМАВЕЦ.**

# Гучала імя Коласа

**Як *паведамлялася ў «ЛіМе»*, з канца мінулага года ў Літве экспануецца коласаўская выстаўка «Па Нёмане песня плыве». Выстаўка пабывала ў Каўнасе і Тракаі. А гэтымі днямі яна пераехала ў літоўскую сталіцу і размясцілася ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Акадэміі навук ЛітССР.**

**Ва ўрачыстасці, прысвечанай адкрыццю выстаўкі, прынялі ўдзел супрацоўнікі коласаўскага музея, іншыя музейныя работнікі, беларускія пісьменнікі, землякі песняра. Сустрэчу адкрыў і прывітаў гасцей дырэктар бібліятэкі Е. Марцінкявічус. Пра месца ў духоўным жыцці не толькі беларускага, але і суседняга, літоўскага народа творчасці Якуба Коласа, пра віленскі перыяд у яго жыцці, пра яго сувязі з літоўскай зямлёй і культурай, пра творчае супрацоўніцтва двух народаў-суседзяў гаварылі дырэктар музея Якуба Коласа З. Камароўская, паэты А. Вярцінскі і С. Законнікаў, загадчык аддзела культуры Стаўбцоўскага райвыканкома А. Грэкаў.**

**На адкрыцці выстаўкі прысутнічалі прадстаўнікі беларускіх культурна-асветніцкіх таварыстваў, *якія пачалі нядаўна* сваю дзейнасць у Вільнюсе. Ад іх імя выступілі інжынер навукова-вытворчага аб'яднання «Літстанкапраект» В. Стэх і старшы інжынер літоўскага завода будаўнічых машын А. Каландзёнак. Юрыст па адукацыі, пенсіянерка В. Хамянюк прачытала свой верш, напісаны па матывах паэмы Я. Коласа «Новая зямля».**

**Прагучалі на адкрыцці выстаўкі музыка і песні. Салісткі народнага хору калгаса «Нёман» В. Шалькевіч і Я. Шклярэвіч, пад акампанемент баяніста А. Шалькевіча, выканалі песню «Мой родны кут», беларускія народныя і сучасныя песні.**

**К. СЦЕПАНЮК.**

# ФЕСТЫВАЛЬ БЕЛАРУСКАГА ТАНЦА

**Дзеля прапаганды дасягненняў беларускай танцавальнай творчасці, мастацкага і выканаўчага ўзроўню калектываў калегіі Міністэрства культуры БССР і Міністэрства народнай адукацыі БССР, сакратарыяты Белсаўпрофа і ЦК ЛКСМБ, прэзідыум праўлення Музычнага таварыства БССР пастанавілі правесці Рэспубліканскі фестываль беларускага танца, які пройдзе ў тры этапы. У час першага этапу сваё майстэрства прадэманструюць калектывы народна-сцэнічнага танца; на другім этапе, які прадоўжыцца да 1 студзеня 1990 года, пройдуць абласныя агляды ўзорных і народных ансамбляў танца; завершыцца фестываль рэспубліканскім конкурсам народных ансамбляў танца і гала-канцэртам (Гродна, 23—25 лютага 1990 г.) і рэспубліканскім конкурсам узорных ансамбляў танца і заключным канцэртам (Мінск, 23—25 сакавіка 1990 г.).**

# АД КАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ БЕЛАРУСКАЙ ССР

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях Беларускай ССР пры Савеце Міністраў БССР у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры паведамляе, што прыём работ на атрыманне Дзяржаўных прэмій БССР 1990 года праводзіцца да 31 снежня 1989 года.**

**Работы прадстаўляюцца ў адпаведнасці з палажэннем аб прэміях і інструкцыямі Камітэта, якія можна атрымаць у Камітэце.**

**Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем іх прадстаўлення, звяртацца ў Камітэт па Дзяржаўных прэміях БССР па адрасу: 220600, Мінск, вул. Фрунзе, 5 (3-ці паверх, пакой 309), тэлефоны: 36-86-31, 36-56-07.**

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

**Леанід ЛЫЧ,**
**доктар гістарычных навук**

# НАЗВЫ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ: ВЯРНУЦЬ СТРАЧАНАЕ

Нацыя, якая пагарджае сваёй гісторыяй, ставіць пад сумненні і сваю будучыню.

**М. С. Гарбачоў, «Праўда», 1987, 31 сакавіка.**

КУЛЬТУРА кожнага чалавека і народа ўвогуле найлепш за ўсё вызначаецца тым, як яны ставяцца да сваёй гісторыі, духоўных традыцый папярэдніх пакаленняў. Паважаючы сваё, трэба шанаваць і створанае іншымі народамі, бо чым больш культурных каштоўнасцей знаходзіцца ў іх распараджэнні, тым багацей духоўны патэнцыял сусветнай цывілізацыі. У літаратуры вельмі агіднымі словамі называюць разбуральнікаў культуры іншых народаў: *вандалы, варвары*. Шкада, што няма трапнага вызначэння для тых, хто знішчае ўласную культуру, бо і такіх выпадкаў вядома нямала гістарычнай практыцы. І, відаць, першым учыніў такое яшчэ за колькі стагоддзяў да нашай эры ўраджэнец г. Эфеса (Малая Азія) Герастрат. Не маючы ніякіх заслуг перад народам, але моцна прагнучы абяссмерціць сваё імя, ён паліць адно з «сямі цудаў свету» — выдатны, найпрыгажэйшы ў сваім родзе храм Артэміды Эфескай. Атрымалася так, як пажадаў Герастрат. Хоць пасля пакарання Герастрата было забаронена ўпамінаць яго імя, яно ўсё ж не трапіла ў нябыт. І сёння ўсякія дзеянні па разбурэнні духоўных каштоўнасцей прынята называць герастратаўскімі.

На беларускай зямлі не было раней засведчана і цяпер няма ніводнага з «сямі цудаў свету». Але мелася нямала іншых духоўных і гістарычных каштоўнасцей, да якіх мы ставіліся — не так і даўно — па-герастратаўску. *Маю на ўвазе* народную тапаніміку, якую часта называюць мовай зямлі.

**Чыя толькі рука ні паласавала назвы беларускай зямлі! Спачатку за гэтую ганебную справу ўзяліся афіцыйныя ўлады Рэчы Паспалітай, калі паставілі перад сабой мэтай паступова пазбавіць беларусаў іх гістарычных каранёў і апалячыць. У адных выпадках геаграфічная назва цалкам замянялася, у другіх — перакручвалася на польскі лад. Такія пераробкі і па сёння захаваліся, адчуваюць сябе па-гаспадарску на нашай карце, нясуцца ў эфір па Беларускім радыё. Магчыма, не ўсе ведаюць, што такі ж лёс некалі спасцігнуў і цяперашнюю сталіцу Беларусі Мінск, які першапачаткова называўся «Менеск», «Менск». Да апошняга варыянту назвы беларускі народ вярнуўся неўзабаве пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, сцвердзіўшы гэтым самым важны ўчынак па адраджэнні сваёй гістарычнай спадчыны. У такім вымаўленні назва падабалася людзям і, напэўна, захавалася б па сённяшні дзень, калі б на нашай зямлі не запалала барацьба з *надуманай нацдэмаўшчынай*, у час чаго нішчылася ўсё, што найбольш падкрэслівала нацыянальную існасць беларуса.**

**Не шанавала нашу народную тапаніміку і адміністрацыя Расійскай імперыі, да якой у канцы *XVIII стагоддзя былі* далучаны беларускія землі ў выніку трох падзелаў Рэчы Паспалітай. Заносячы на геаграфічныя карты, у розныя службовыя даведнікі назвы населеных пунктаў Беларусі, іх наўмысна стараліся не толькі максімальна наблізіць да рускай тэрміналогіі, але часта і зусім замяніць блізкім па сэнсе рускім словам.**

Часам даходзіла да кур'ёзаў: каб як-небудзь унізіць, зганьбіць годнасць беларускага народа, асобныя назвы населеных пунктаў да такой ступені перараблялі, што яны станавіліся немілагучнымі ці набывалі зневажальны для іх жыхароў характар. Менавіта не без удзелу памешчыкаў і чыноўнікаў Прапошаск сталі пісаць Прапойск (цяпер Слаўгарад), з'явіліся Дурневічы (цяпер Лугавая, Баранавіцкі раён).

Але ўсё тое, што зроблена з назвамі беларускай зямлі адміністрацыяй Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі, не ідзе ў параўнанне з учыненым дамарослымі, *уласнай гадоўлі* герастратамі. Першыя замахі былі зроблены адразу ж пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Трэба сказаць, што ўвогуле адносіны да гістарычнай, духоўнай спадчыны ў той час не вызначаліся асаблівай гуманнасцю і ўзважанасцю. Пакуль як след разабраліся, што да чаго, было зруйнавана і на Беларусі *нямала* помнікаў гісторыі і культуры, каштоўных твораў літаратуры і мастацтва. Перабудоўшчыкаў старога свету шмат у чым незадавальнялі і назвы зямлі. Вядома, штосьці і сапраўды не «стыкавалася» з новай эпохай, але адмаўляцца ад яго трэба было з усёй абачлівасцю. На жаль, яе часта неставала, што асабліва добра ўсведамляецца з пазіцый сённяшняга дня, калі нам так хочацца вярнуць усё каштоўнае, што належала шматлікім пакаленням роднай Бацькаўшчыны. Цяпер бы ў нас не выклікала аніякіх пярэчанняў існаванне такіх назваў, што зніклі за даваенны час, як Аўгустава, Бузава, Вароны, Голае, Дзягцянка, Загаліха, Ігумен, Карпілаўка, Кабыльнікі, Койданава, Маёнтак, Пагосцішча, Рэутполе, Святое, Убібачкі, Царэўск, Чапяліна, Шчацінка і іншыя. Наадварот, яны куды *лепш успрымаюцца* на слых, нясуць значна большую сэнсавую нагрузку, чым словы, што прыйшлі ім на замену, да прыкладу: Звязда, Першамайская, Свабода, Вішнёўка, Чырвоны Заранак, Новае Жыццё, Чырвоны Пасёлак, Калінаўка. Гэта ж зусім выпадковыя словы, якія ні цяпер, ні пазней не дадуць аніякага матэрыялу для разумення нашай гісторыі, больш таго, будуць зводзіць у зман сваёй напышлівасцю і пампезнасцю наступныя пакаленні.

Першымі паплаціліся гістарычнай спадчынай у 1918 годзе жыхары вёскі Раманава, што на тэрыторыі сучаснага Горацкага раёна. Прычына скасавання не патрабуе вытлумачэння: назва атаясамлівалася з дынастыяй звергнутай Лютаўскай рэвалюцыяй 1917 года царскай сям'і. Доўга не думаючы, вёску назвалі «Леніна», нібы паміж старым і новым словамі была нейкая лагічная сувязь. У 1921 годзе аналагічны лёс напаткаў і вёску Раманава Слуцкага павета. І ўсё гэта дарэмна, бо як у першым, так і ў другім выпадках скасавалі назву «Раманава», што існавала да таго, як на троне Расійскай дзяржавы з'явілася дынастыя Раманавых.

У ліку першых нешчасліўцаў апынулася і вёска Алеская цяперашняга Ельскага раёна. Назва як назва, але ж камусьці ў галаву прыйшла думка перайменаваць яе ў 1919 годзе ў «Роза Люксембург» — у гонар па-зверску забітай дзячкі міжнароднага рабочага руху. Думаецца, зусім невялікі гонар для памяці Розы Люксембург—надаць яе імя сярэдняй паводле сваіх памераў беларускай вёсачцы, а вось пракол у тапанімічнай тканіне нашай зямлі зрабілі. Дый сама новая назва, будучы зусім чужым *для беларускай мовы* словам, вельмі цяжка падпарадкоўваецца яе граматычным правілам. З такой назвы даволі складана зрабіць прыметнік, а яшчэ цяжэй вымавіць яго.

Словам, па часе перакройкі тапанімікі Беларусь аніяк не адставала ад іншых нацыянальных раёнаў, а, можа, нават ішла наперадзе іх. Мы прыступілі да гэтай заганнай справы яшчэ да таго, як горад Гатчына перайменавалі ў Троцк (у гонар Троцкага), Екацярынабург — у Свярдлоўск, Сімбірск — ва Ульянаўск, Царыцын — у Сталінград і г. д.

Больш спакойным дзесяцігоддзем у гісторыі нашай геаграфічнай тапанімікі былі 20-я гады. І гэта невыпадкова. Курс на культурнае адраджэнне беларусаў вымусіў больш уважліва паставіцца да сваіх духоўных традыцый, выклікаў у гушчах *народа* вялікую зацікаўленасць да сівой мінуўшчыны. Усяму гэтаму вельмі садзейнічала палітыка беларусізацыі, якую актыўна падтрымаў працоўны люд. Усяго за 20-я гады, (разам з вёскай Раманава Слуцкага павета) былі заменены назвы толькі чатырох населеных пунктаў. Самым неабдуманым лічу замену Рудабельскай вобласці Бабруйскага павета на Акцябрскую. Яе жыхары ўпісалі яскравую старонку ў барацьбу за Савецкую ўладу. Нават у той час, як Бабруйскі павет быў акупіраваны войскамі кайзераўскай Германіі і буржуазнай Польшчы, жыхарам Рудабелкі ўдалося адстаяць Савецкую ўладу ў сваёй воласці, якую з гонарам называлі тады Рудабельскай рэспублікай. Быў час, што ў яе ўваходзілі і суседнія вобласці Бабруйскага, Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. Гераізм рудабельцаў у барацьбе за ўладу Саветаў паслужыў матэрылам беларускаму пісьменніку С. Грахоўскаму для напісання цікавай дакументальнай аповесці «Рудабельская рэспубліка», паводле матываў якой быў пастаўлены спектакль, зняты кінафільм. Прачытаць пра гераізм рудабельцаў можна і ў шмат якіх гістарычных працах. Дзякуючы гэтаму практычна кожны культурны чалавек ведае, што для беларускага народа значыць Рудабельская рэспубліка. Дык ці ж можна ў такім разе мірыцца з тым, што з карты нашай зямлі выкаранена назва Рудабелка? Вядома, не.

Не будзем палохацца, што з адраджэннем назвы Рудабелка давядзецца адмовіцца ад такога аўтарытэтнага ў беларусаў, як і ва ўсіх савецкіх народаў, слова — «Акцябрск». Па-першае, яно даволі часта ўжываецца ў рэспубліцы ў якасці тапоніма, што не садзейнічае яго аўтарытэту, а, наадварот, вядзе да пэўнай дэвальвацыі. Па-другое, слова «Акцябрск» адсутнічае ў беларускай мове, яго выкарыстанне супярэчыць нормам нашай нацыянальнай тапанімікі. На геаграфічнай карце рэспублікі неабходна пакінуць зусім невялікую колькасць назваў, якія ўвасабляюць *паваротны этап* у гісторыі чалавецтва, і ўсе іх даць у беларускім напісанні: Кастрычнік, Кастрычніцкі, Кастрычніцкая і г. д.

*Калі звязанае* з палітыкай беларусізацыі абуджэнне нацыянальнай свядомасці садзейнічала недатыкальнасці назваў Бацькаўшчыны, дык з разгулам барацьбы з так званай нацдэмаўшчынай сур'ёзны замах быў учынены і на народную тапаніміку, з тым, каб адарваць беларускі народ ад яго гістарычных вытокаў, духоўных традыцый. Падмацаваць сказанае можна такім фактам. Калі ў першай палове 30-х гадоў з геаграфічнай карты зніклі толькі 5 былых назваў населеных пунктаў, дык у другой — 67, прычым усе яны прыпадалі на 1938—1939 гг. У рэспубліцы бязвінна гінуць людзі ад ілжывых даносаў, а бюракраты экстравагантнымі. патрыятычнымі слоўцамі, імёнамі кіраўнікоў разбаўляюць беларускую тапаніміку. Вось некалькі прыкладаў такой творчасці. У Лепельскім раёне вёску Аўгустава ахрысцілі Зоркай, у Сенненскім Буй — імем Будзённага, у Дрысенскім Страшныя — Новым Ладам, Кабыльнікі — Перамогай, Вароны — Свабодай, у Суражскім Гаруны — Камунаркай, Хаеўшчыну — Майскай Раніцай, у Смалявіцкім Дзягцянку — Чырвоным Світанкам, у Лепельскім Ізабеліна — Свабодным Жыццём, Карсашчыну — Шчаслівым Жыццём, Плешкі — Росквітам, у Расонскім Куляшова — Чырвоным Сцягам, Старыну — Чырвоным Маяком. Нічым іншым, як здзекам з народа, што нёс такія вялікія ахвяры ў гады культу Сталіна, не назавеш прыведзеныя факты перайменавання. А колькі за 30-я гады прыйшло на замену народнай тапанімікі назваў святочнага тыпу: Першае Мая, Першамайская, Чырвоны Кастрычнік, Кастрычнік. У Суражскім раёне дадумаліся вёску Князі назваць Другой Пяцігодкай.

Самым шчаслівым для назваў нашай зямлі быў перыяд першых пятнаццаці гадоў пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Людзі, якія за час акупацыі

**(Працяг на стар. 14—15).**

## *Беларускай мове—статус дзяржаўнай*

# МОВЕ МОВА — НЕ ВОРАГ

нінец» і «Настаўніцкая газета». Абласная газета—і тая на рускай. Кожны з нас хай спытае: хто я такі? Нарадзіўся і вырас у Беларусі, а мову ведаю дрэнна. Для таго, каб адрадзіць беларускую мову, трэба яе аб'явіць дзяржаўнай. Я супраць двухмоўя і дыялектаў: у дзіцячых садах, школах, ва ўсіх установах павінна жыць і працаваць беларуская мова.

**В. Дымар,** загадчык райана: Мы часта змешваем паняцці мовы і культуры. Дыялекты,- на маю думку, маюць такое ж права на існаванне, як і любая мова. Мы на дыялекце вучыліся гаварыць, слухаць казкі, песні спяваць. Я сябе ніколькі не адчуваю абдзеленым, што далучыўся да вялікай рускай культуры. Умею на ўкраінскай і польскай мовах гаварыць, і ганаруся тым, што жыву ў такой інтэрнацыянальнай рэспубліцы, як Беларусь. Для мяне абедзве мовы аднолькавыя—і руская, і беларуская, і развівацца яны павінны аднолькава...

**Я. Семянюк,** бібліятэкар: Роднай мовай з'яўляецца тая, на якой думаеш. Мае бацькі—беларусы, але ніколі на беларускай мове не размаўлялі. Мы не знойдзем яе карэнняў у нашым раёне. Дык якую мову адраджаць?

**А. Скубельская,** настаўніца школы № 2: Тое, што беларуская мова прыйшла ў заняпад, відавочна, але не трэба вінаваціць адзін другога, а рабіць усё магчымае для паляпшэння справы. Крыўдна, калі бацькі-беларусы просяць вызваліць іх дзяцей ад вывучэння роднай мовы. А дзеці адносяцца да яе вывучэння не горш, чым да іншых прадметаў. Галоўнае—зацікавіць дзяцей, заахвоціць да чытання.

**Н. Шпаковіч,** настаўніца з Вярховіцкай СШ: Мне цяжэй працаваць у глыбінцы хоць бы таму, што не хапае літаратуры. Так, «Песні пра зубра» Гусоўскага ў нас наогул няма. Мала дапамагаюць нам работнікі культуры. Трэба, каб навучальныя ўстановы пераходзілі на выкладанне ўсіх дысцыплін на беларускай мове, гэта бяда, што надзвычай абмежаваная сфера яе ўжывання.

**Г. Тарасевіч,** навуковы супрацоўнік музея «Камянецкая вежа»: Мы ўсё гаворым пра мову, а я лічу, што перш за ўсё варта развіваць культуру. Бо многія нашы дзеці не навучыліся яшчэ гаварыць ні «дзякуй», ні «спасибо». З хамствам сутыкаемся на кожным кроку. Выхаваем культуру чалавека, мараль—вось тады і прыйдзем да мовы. Культурны чалавек будзе любіць усё роднае, цаніць і берагчы мову.

Вось такія неадназначныя, але шчырыя выказванні.

Так, у рэспубліцы прыняты адпаведныя рашэнні, зацверджаны праграма «Родная мова» і «Спадчына». Здавалася б, навошта коп'і ламаць, усё паступова стане на сваё месца. Ды закрадваецца сумненне: ці не пакладуць прынятыя дакументы пад сукно некаторыя з тых, ад каго залежыць выкананне намечанага? Ці ж мала ў нас прымалася важных рашэнняў, якія не ажыццяўляліся! Магчыма, мае апасенні дарэмныя, і наогул я не лічу свае думкі бясспрэчнымі, але ўсё ж чаму, калі з аднаго боку, прымаецца дзяржаўная праграма па развіцці нацыянальнай мовы і культуры (і некаторыя захады робяцца), з другога—асобныя чыноўнікі ўспрымаюць цалкам абгрунтаваную трывогу за стан роднай мовы як праяўленне нацыяналізму, шавінізму? І гэта ў той час, калі адна з рэзалюцый XIX Усесаюзнай канферэнцыі КПСС заклікае прапагандаваць мову таго народа, імем якога названа тая ці іншая рэспубліка.

Чаму да так званых нефармалаў, якія заклапочаны адраджэннем нацыянальнай мовы і культуры, да руху за перабудову «Адраджэнне» ўзмацняюцца з боку партыйных і савецкіх органаў негатыўныя адносіны? А як жа быць з ленінскім запаветам «жывой творчасці мас», ініцыятывы знізу, з аб'яўленым плюралізмам думак? Скажам, чаму ўсяляк падтрымлівалася афіцыйнае і сапраўды фармальнае Таварыства барацьбы за цвярозасць, якое патанула ў паперах і не прынесла ніякага плёну, а добраахвотная арганізацыя, якая аб'явіла сваёй праграмай барацьбу за перабудову, за экалагічную чысціню, супраць бюракратыі (у поўнай адпаведнасці з партыйнай канферэнцыяй), не атрымала падтрымкі афіцыйных улад? Думаю, не таму, што барацьба з п'янствам важней, чым дэмакратызацыя, экалагічная раўнавага і выкараненне бюракратызму. Мне думаецца, сёй-той з былых апалагетаў застойных часоў увайшоў у перыяд перабудовы толькі фармальна прызнаючы яе, а ў душы—па-ранейшаму адвяргаючы ўсялякую свабоду думкі. У звароце руху «Адраджэнне», праграма якога дасюль так і не апублікавана ў нашым друку, ёсць пункт «за адраджэнне дзяржаўнасці беларускай мовы». Але ж побач сказана: «за свабоднае развіццё моў і культур усіх нацыянальнасцей, што жывуць на Беларусі». Дык чаму ж беларуская мова, якая некалькі стагоддзяў была дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім, якую ў 1697 годзе забараняў сейм Рэчы Паспалітай, а ў 1867—царскі ўрад, за абарону якой арыштоўвалі ў часы сталінізму, якую не надта паважалі ў часы застою,—чаму мова Ф. Скарыны, К. Каліноўскага, Ц. Гартнага, Я. Купалы, Я. Коласа, У. Караткевіча, мова, якая ўвасоблена ў назве рэспублікі—члена ААН,—не павінна быць дзяржаўнай? Апаненты непакояцца за рускую мову, сапраўды вялікую, родную і блізкую многім у Беларусі. Але непакоіцца за яе стан у БССР няма ніякіх падстаў. Яна фактычна і даўно стала ў нас дзяржаўнай.

Кажуць, што ў нефармалаў ёсць і неабгрунтаваныя патрабаванні: стварэнне нацыянальных вайсковых фарміраванняў, увядзенне сімвалаў тыпу «Пагоні» і г.д. Дык чаму ж не паспрачацца з імі, не выступіць з абгрунтаваным абвяржэннем іх спрэчных думак? Я асабіста супраць нацыянальных ваенных фарміраванняў. Узброеныя Сілы, у якіх сумесна служаць прадстаўнікі розных нацый, армія і флот, сталі сапраўднай школай інтэрнацыяналізму. На вошта ж цяпер размежаванне, калі абарона Радзімы — самая што ні ёсць інтэрнацыянальная справа?

Цяпер мы ўсё часцей звяраем свае крокі з ленінскімі думкамі. Гэта не грэх зрабіць і ў адносінах да мовы, культуры. Уладзімір Ільіч у рабоце «Да пытання аб нацыянальнай палітыцы» пісаў: «Дэмакратычная дзяржава безумоўна павінна прызнаць **поўную свабоду** розных моў і адвергнуць **усякія** прывілеі адной з моў.

Дэмакратычная дзяржава не дапусціць падаўлення, маёрызавання ніводнай нацыянальнасці другою ні ў адной вобласці, ні ў адной галіне грамадскіх спраў». Вось так: ніякіх прывілей, ніякага падаўлення адной мовы другой.

Сёй-той заяўляе: ніхто не забараняе, гавары, як хочаш, хоць на дыялекце! Фальш тут відавочны, бо патрэбна рэальная роўнасць, а сказаць, што ў рэспубліцы цяпер беларуская мова роўная з рускай—тое самае, што ў пустыні сказаць: ніхто не забараняе піць ваду, наталяй смагу, колькі хочаш.

Каб не было фальшу, трэба ўсяляк пашыраць сферу ўжывання беларускай мовы, дамагчыся таго, каб яна стала—побач з рускай—рабочай мовай. А то дзіўна бачыць, калі нават той, хто ведае родную мову, з высокай трыбуны быццам саромеецца на ёй гаварыць. Пэўна, так было і на нядаўняй прэс-канферэнцыі ў консульстве ПНР, у рабоце якой і мне пашанцавала прыняць удзел. Усе гаварылі цікава і змястоўна. Але польскія журналісты выступілі на сваёй роднай, блізкай нам славянскай мове, і ўсе іх зразумелі, а прадстаўнікі Беларусі, у тым ліку і намеснік міністра культуры, палічылі, што лепш гаварыць па-руску. Даходзіць да абсурду: у БССР, здаралася, не хацелі прымаць на пошце тэлеграму, напісаную па-беларуску.

Вывучыць беларускую мову няцяжка. І таму дзіўна, паўтаруся, што многія партыйныя і савецкія кіраўнікі ніяк не могуць засвоіць блізкую да рускай славянскую мову. А мо проста не хочуць?

Зноў жа, мае апаненты загавораць тут пра перакосы, успомняць таго студэнта Аляксандра Пушкіна, пра «выбрыкі» якога расказалі амаль усе газеты. Нагадаюць і пра экстрэмістаў, якія нібыта сцягваюць сваіх апанентаў з трыбун, зневажаюць нацыянальны сцяг, з-за якіх нават пралілася кроў. На гэта адкажу адно: не трэба ўсіх ставіць на адну дошку (а такая спроба, па-мойму, назіраецца). І не трэба адмяжоўвацца і адхрышчвацца ад «усялякіх нефармалаў», якіх у наш час, думаю, ніхто не асмеліцца аб'явіць ворагамі народа. Тым больш нельга адмяжоўвацца ад інтэлігенцыі, якая заўсёды лічылася соллю грамадства, ад пісьменнікаў, якія заўсёды былі душой і сумленнем народа. Канечне, і ў вядомых, славутых аўтараў бываюць памылковыя погляды, і яны не святыя, але нельга закрэсліць той уклад у духоўнае жыццё грамадства, які зрабілі тыя ж Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў, Пімен Панчанка, многія іншыя пісьменнікі Беларусі, у тым ліку і не надта знакамітыя, як мой зямляк паэт Васіль Жуковіч.

Сапраўдных ворагаў Савецкай улады, унутраных, самых небяспечных ворагаў мы ведаем—гэта чурбанавы, шчолакавы, адылавы, якія сваімі дзеяннямі падрывалі веру народа ў партыю, у сацыялізм. А з нефармаламі пара навучыцца па-ленінску весці аргументаваную дыскусію, разабрацца, што ў іх правільнае, а што памылковае, накіраваць іх энергію ў патрэбнае грамадству рэчышча. Дарэчы, асцерагаючыся нефармалаў, кіраўнікі некаторых раёнаў сёлета ў красавіку не захацелі прымаць у сябе дэлегацыю маладых літаратараў Брэстчыны і Жытоміршчыны. Добра, што ў нашым раёне зрабілі інакш: у сустрэчы ўдзельнічала другі сакратар райкома партыі Н. Д. Стасюк, паездка па Камянеччыне атрымалася цікавая і плённая, стала сапраўдным святам паэзіі, святам дружбы двух братніх народаў—беларускага і ўкраінскага.

Слушна сказаў Р. Гамзатаў: «Мова мове—не вораг». У садружнасці моў і народаў беларусаў, рускіх, украінцаў, літоўцаў, палякаў і іншых, якія насяляюць Беларусь, як і ва ўзаемаразуменні прадстаўнікоў партыйных, савецкіх органаў і ўсіх грамадскіх, у тым ліку і нефармальных арганізацый і аб'яднанняў, а не ў канфрантацыі паміж імі, пэўна, хутчэй можна дамагчыся поспеху ў перабудове і дэмакратызацыі.

**Г. ПАРФЯНЮК,**
**супрацоўнік камянецкай раённай газеты «Ленінец».**

---

**на абысціся без яе. І ад унукаў маіх, і ўжо нават ад праўнука не пачуеце беларускага слова, калі яны прыязджаюць да мяне са сваіх гарадоў...»**

**Так, нашу нацыянальную інтэлігенцыю ў трыццатыя гады жорстка пашкуматалі — каго рэпрэсіравалі, каго запалохалі, і страх ад гэтага перадаўся наступным пакаленням. Потым гэты страх, боязь аформіліся ў абыякавасць, а потым — у «самааплёўванне»....**

**Ах, якая там нацдэмаўшчына! Проста людзі паверылі, што нарэшце наступіў час нацыянальнага адраджэння, і так радасна шчыравалі на сваёй ніве. А іх ад беларускай нівы — на Поўнач, за Урал, у Вятку... І шмат хто дома махнуў рукой: а, прападзі ты пропадам!.. Праўда, 1941—44 гады паказалі ўсяму свету, чаго варты беларус і на якія ахвяры ён пайшоў, і ён зноў быў устрапянуўся на сваёй ніве, але потым зноў пайшло-паехала... І мы прыехалі да пяці (у 1986-87 гг.) гарадскіх беларускіх школ ва ўсёй рэспубліцы.**

**У 20-я гады, калі амаль не было сваіх нацыянальных навуковых кадраў, да нас прыязджалі вучоныя з Масквы, Ленінграда і за кароткі тэрмін асвойвалі беларускую мову, каб студэнтам, дзецям рабочых і сялян, чытаць лекцыі на іх роднай мове. Сёння ж выкладчыкі ВНУ, нават і беларусы, беларускай мовы або не ведаюць, або ведаюць, ды не карыстаюцца ёй. Тады ж, у 20-я гады, у ЦК КП(б)Б, ЦВК і Саўнаркоме БССР з людзьмі маглі гаварыць па-беларуску, па-руску, па-польску, па-яўрэйску. І гэта не размяжоўвала, а аб'ядноўвала і людзей між сабой, і кіраўнікоў з народам.**

**Сучасная наша беларуская школа... Ёй зараз, як і любой школе ў краіне, цяжка. Асабліва цяжка нацыянальнай школе: ёй, акрамя ўсяго іншага, трэба яшчэ ўзняць і прэстыж менавіта нацыянальнай школы, калі мы хочам, каб з яе выходзілі сапраўдныя людзі — з добрымі сэрцамі, патрыёты, інтэрнацыяналісты.**

**Малькавічы — за дзесяць кіламетраў на поўдзень ад Люсіна з яго «Якубом Колосом» на памежжы цэнтральна-беларускай і пінска-палескай гаворак. У асноўным мова блізкая да літаратурнай (вось толькі «я» перад націскам пераходзіць у «а»: «бары мяне замуж»). Даволі вялікая і прыгожая вёска, чыгуначная станцыя, дзевяць магазінаў (у тым ліку і кнігарня), двухпавярховы тыпавы будынак сярэдняй школы непадалёк ад лесу і рэчкі Цны (якая цяпер, на жаль, ператварылася ў канаву), асфальтаваная вуліца... Жыві і радуйся. Але «мясцовага» патрыятызму ні час, ні сям'я, ні школа ў моладзі не выхавалі. Яе абыякавасць да роднай зямлі, да роднага слова, да роднай песні — з'ява тыповая, характэрная і для тых маладых (дый не толькі маладых), што жывуць і за дзесяць, і за сто, і за трыста кіламетраў ад Малькавіч.**

**У год-два дзіця, адразу пасля калыскі, на яшчэ не ўстойлівых ножках, было патрыётам, казала: «цацка», «бульбачка». Але гэтае дзіця занеслі ў прыгожы двухпавярховы дом ля школы — у яслі-сад, і цёці ў белых халатах папоўнілі іх слоўнікавы набытак «ігрушкай», «картошачкай», бо гэтыя маладыя цёці, хаця, пераважна, і тутэйшыя, але скончылі педвучылішча (у Пінску ці яшчэ дзе паблізу), дзе іх рыхтавалі, мабыць, для работы ў расійскіх абласцях, або дзе-небудзь у штаце Мічыган. Потым дзіця трапляе ў групу шасцігодак пры школе (і садзіку адначасова), дзе яго пачынаюць ставіць на «путь истинный», вучыць «уму-разуму». У яслях-садзіку дзіця прывыкла казаць «драстуйця», у школе трэба ўжо казаць больш па-вучонаму — «здравствуйте» (а ў сшытку настаўніца яшчэ і «в» дабавіць пасля «а»). І так разгубіцца дзіця, калі нейкі дзядзька на школьным двары на яго, дзіцячае, «здрастуйце» адкажа: «Добры дзень!»**

**Школьнік не здзіўляецца, не задумваецца — яму ўсё роўна, якая гэта школа, беларуская ці руская, яму ўсё роўна, у якой вёсцы ён расце, яму ўсё роўна, якія дрэвы ў лесе, якія там птушкі, ён абыякавы да бярозы ля роднай хаты (абы спусціць вясной сок), абыякавы да фальклорна-этнаграфічнага хору ў суседняй вёсцы Задуб'е (і адсюль дзеці вучацца ў старэйшых класах Малькавіцкай школы).**

**Школа, сустрэўшы дзіця гэтым «Добро пожаловать!» над сваімі дзвярамі, праводзіць маладога чалавека ў далейшую жыццёвую дарогу словамі кіраўніка выпускнога класа на развітальным вечары: «Мы, учителя, дали вам всё, что могли... Перед вами открыты широкие дороги в большую жизнь... Будьте же достойными преемниками... Не забывайте же свою родную школу...» Выпускніца (ужо не ў школьнай форме, а ў моднай сукенцы), камсамольская актывістка, выдатніца вучобы, плачучы, адказвае: «Школа научила нас быть настоящими людьми... Мы никогда не забудем родную школу, свою родную деревню. Спасибо вам всё...»**

**«Ой, дзяўчаткі, дзяўчаткі! А што я нагаварыла — і сама не помню»... Так казала тая ж выпускніца пасля ўрачыстай развітальнай цырымоніі.**

**А пасля пачынаецца найгоршае — забыццё...**

**Малькавіцкая школа — таксама дзіця, дзіця свайго часу, дзіця адукацыйнай і выхаваўчай сітуацыі. І настаўнікі, выхавацелі, дырэктар і яго намеснікі — таксама дзеці ўсяго гэтага. Тыповыя дзеці тыповых аналічнасцей...**

**Як жа пачуваецца юнаму пакаленню ў школе ад шасці да семнаццаці гадоў у сферы роднай мовы?**

**У 1—3 класах прадметы выкладаюцца па-беларуску. Але і тут ужо так званыя класныя гадзіны, піянерскія зборы вядуцца на рускай мове або на руска-беларускай мяшанцы. Можна сказаць, прынцып двухмоўнасці пачынае сваю разбежку з-за беспрынцыпнасці настаўнікаў. У 4—10 класах матэматыкі, біёлаг-хімік і некаторыя іншыя прадметнікі вучаць дзяцей на роднай мове. А вось гісторык, нягледзячы на тое, што ў вучняў падручнік на беларускай мове і толькі ў яго, у настаўніка, па-руску (знайшоў-такі), выкладае гісторыю і грамадазнаўства на рускай мове. Дарэчы, аб узроўні пісьменнасці тых асоб з рэспубліканскага Міністэрства адукацыі, якія адказваюць за падручнікі, сведчыць тое, якi ў падручніку для 7 класа пераклад з рускай мовы: «крепостная архитектура» стала «прыгоннай архітэктурай», а трэба ж «крапасная»...) Дык на якой жа, даруйце, мове павінен гаварыць на ўроку вучань? І пра якую якасць ведаў тут можа ісці гаворка? І як глядзіць у вочы сваім вучням такі настаўнік, калі расказвае ім — па-руску — пра тое, як некалі беларускі народ не меў права на родную мову, як душылі гэтую мову расійскі царызм і ўрад буржуазнай Польшчы? Такое — ужо не проста недахоп, памылка ў рабоце настаўніка, а нешта горшае.**

**Выкладчык беларускай мовы і літаратуры адчувае сябе «белай варонай». Калі раніцай, у пачатку рабочага дня, ён яшчэ скажа калегам «добры дзень», дык у канцы, разгубіўшыся, шэпча «до свидания». Толькі аднойчы, ля навагодняй ёлкі, на фоне «інтэрнацыянальна-класічнага» Арлекіна, дзве дзяўчынкі-дзевяцікласніцы разыгралі сцэнку з народнага жыцця —на беларускай мове, і трэба было бачыць, як прыемна былі ўражаны ўсе прысутныя на свяце,— і школьнікі, і іх бацькі, і нават некаторыя настаўнікі.**

**Дэградацыя духоўная — дэградацыя моўная...**

**Дык што, ва ўсім настаўнікаў вінаваціць? Так, вінаваціць ёсць у чым. Але як і чаму навучылі іх у педінстытутах, і універсітэтах, у педвучылішчах, чаму вучаць у інстытутах удасканалення настаўнікаў? Як з імі гавораць і чаму вучаць заезджыя раённыя, абласныя і рэспубліканскія інспектары і метадысты?**

**Як сталіца Мінск гаворыць з вобласцю, так і вобласць з раёнам, раён з вёскай, з яе школай, а школа—са сваімі вучнямі і іх бацькамі. Такі ланцуг, такая лесвіца зверху ўніз. І каму б тут, нарэшце,— каму і калі? — паднесці хлеб-соль на вышытым ручніку ад імя беларускай мовы і яго носьбіта?!.**

**М. КУПРЭЕЎ,**
**настаўнік.**

вёска Малькавічы

## Паэзія

**Мікола АРОЧКА**



### Чарнобыль і мова

Не верыце ў іх сувязь, у залежнасць?
Адвольнасць, выдумка майго «сціла»?
Іх сувязь нас пякельна працяла.
Залежнасць іх маю зямлю калечыць.

Скалечыла, пад корань падкасіла,
Бо, з мовы распачаўшыся, яна —
Паганьбавала д'ябальская сіла —
Пайшла па краі родным, як вайна.

Ад мовы роднай самаадрачэнне,
Сарваўшы з каранёў, пагнала ў свет
Мой люд — уніз, як трэску па цячэнню...
А недзе ж быў і ёсць імунітэт!

Саслаб ён не цяпер... За кропляй кроплю
З нас выціскалі волю, воблік, твар.
Не сёння распачаўся наш Чарнобыль,
А з самазабыцця — смяротны ўдар.

Карцела ж тым, хто пачуваўся дужым,
Яшчэ больш — коштам іншых —
падужэць.
Ад водару зямель пазбавіць душы,
Пад грабянец адзін падстрыгчы шчэць.

І затаптаць гісторыі той прысак,
Дзе сімвалы — не пыльны рэквізіт.
На вуснах нашых мовы роднай прысмак
Яшчэ псуе у многіх апетыт.

Ні самабытных песень, ні абрадаў,
Ні помнікаў культуры і ні мар —
Там, дзе раскрадзена духоўнасць
скарбаў,
Там, дзе з зямлі сагнаны Гаспадар.

Прынукаю пастаўлены ў аглоблі,
Застрашаны, з астылаю крывёй,
Ён развітаўся з мовай, як з раллёй,
Свой мулкі горб падставіў пад
Чарнобыль.

Не-Гаспадар, адразу ж ён аслеп,
Цвярозы з роду, ён палез у чарку.
Ні песню і ні мовы родны хлеб
Ён перадаць не мерыцца нашчадку.

Ні золкага аеру, ні трысця,
Ні чыстага грыба, ні лап кашлатых,
Ні той калыскі вечнай — роднай хаты...
Чарнобыль перадасць.
Замест жыцця.

### У дзень народзін народнага фронту

Мне ў вёску — позва...
Лёс мой ненадзейны!
Але душой не мог я — ў дзень
народзін! —
Не быць сярод адвагаю надзеленых,
Бяспраўна-гнаных — у сваёй Гасподзе!

Вы сёння гнаныя —
З радзінным краем,
З барамі, мазалямі, болем вострым —
У Вільню, што здаецца нейкім раем,
На вольналюбны прыбалтыйскі
«востраў».

Там, як абдымкі, расхіснула дзверы
Трываласць гістарычнага сяброўства.
А злобства, што без памяці і веры,
З народу ападзе, нібы кароста.

З народу, так!
А чужакоў, звыроддзе
Ці трэба сёння згадваць — вусны
брудзіць!
Ці мала яны шкодзілі і шкодзяць?
Але жыве наш Фронт!
Свой край адродзяць людзі.

Зыходзіць не з насельніцтва тварэнне
Культуры —
з этнасу свайго народу!
Наш Фронт — з народу!
З імем — Адраджэнне
Духоўнай мовы, хлеба і прыроды.

## Проза

**Іван КАПЫЛОВІЧ**






Па-над ракою слаўся дрогкі туман, і ў гэтым тумане альховыя кусты, што падступілі блізка да вады з аднаго і другога берага, выдавалі зданямі, якія быццам не стаялі на месцы, а кудысьці плылі, плылі...

Шарынец паклаў вудзільна каля ног, сядзеў, драмаў, сачыў за паплаўком. Мо ўжо другую гадзіну ён тут, а клёву амаль ніякага, і Шарынец злаваў, што спёрся ні свет ні зара і дзеля чаго?

— Слаўка, ты не заснуў? — клікнуў Шарынец шафёра. Той адышоўся трохі ўніз па рацэ, зашыўся ў прыбярэжны алешнік, сцішыўся, нават не кашляе, не падасць голасу.

— Цішэй вы, Каленікавіч! — слаба азваўся Слаўка. — Усю рыбу папужаеце.

— Дзе ты бачыш тую рыбу?! Я падчапіў два заморыныя падлешчыкі дый усё.

І зноў цішыня, туман...

Першы раз Шарынец аказаўся каля гэтага берага тады, калі аддаваў дачку замуж. На вяселле трэба была свежая рыба, і Слаўка параіў скокнуць сюды, пад Нароўлю, дзе каля самай Прыпяці, у сасновым бары, рос санаторый-прафілакторый.

— Вартаўнік прафілакторыя — ого які рыбак! — хваліў Слаўка знаёмца. — Снасці ў яго — мне б такія... Зацягнуў раз-другі — і некалькі мяхоў...

Канечне, лепей прыйсці ў магазін і ўзяць той рыбы столькі, колькі трэба, але ж... У Мазыры вунь рыбазавод, брыгады рыбакоў, што ловяць дзень і ноч, але дзе іхні ўлоў? Да рыбазавода, бачыў не раз сам Шарынец, адна за адной падрульваюць «Волгі».

Яны нібы краліся да санаторыя-прафілакторыя. Звярнулі з бальшака — і Шарынец папрасіў шафёра спыніцца, заглушыць матор, а сам выйшаў з машыны, паўслухоўваўся — ці не цікуе за імі міліцыя або інспекцыя «Белрыбвода».

— Ох, які вы чалавек, Каленікавіч! — крануліся зноў, шафёр уключыў фары. — Нельга быць такім...

— Ты мяне, Слава, не вучы. Знаеш, колькі я ў «Сельгастэхніцы»? Мая пасада невялікая—пад маёю камандаю запчасткі да любога легкавіка, грузавіка, трактара... Думаеш, не спакушалі мяне грашыма, гасцінцамі, калі каму трэба была якая жалязяка? Але я ніколі не блытаў сваё з дзяржаўным, таму смела жыву і не баюся ніякай рэвізіі...

Вартаўнік — мужчына гадоў сарака пяці, з чырвоным асмужаным сонцам і вятрамі тварам, у картовай шапцы, літых гумовіках, брызентавых штанах і штармоўцы з адкінутым на плечы капюшонам, ладзіў нацягнутую між дзвюх сосен снасць.

— Здароў быў, Кузьміч! Мы да цябе, — павітаўся Слаўка з мужчынам.—Пазнаёмся: Павел Каленікавіч Шарынец, намеснік упраўляючага «Сельгастэхнікі», дачку выдае замуж, рыбы трэба трохі на вяселле.

— Адам Кузьміч,—вартаўнік працягнуў Шарынцу руку, зірнуў на яго, здалося, з нейкім спалохам — усё-такі забароненым промыслам займаецца, тут не тое што чалавека — любога куста бойся...

— Я з дня ў дзень круціўся па Мазыры — думаў, куплю, усё ж там брыгады дзяржлову, рыбазавод...

— Я разумею, — з палёгкай уздыхнуў вартаўнік,— раз трэба, дык трэба...

Як добра сцямнела, вартаўнік сабраў снасць, узяў вясло — і да ракі.

Работа ў Шарынца нялёгкая. Трэба якія запчасткі, — садзіцца ў свой службовы «Масквіч» і коціць у Кіеў, Оўруч, Ульянаўск, Маскву... Вернецца — і Слаўка ставіць «Масквіча» на яму, не вылазіць з-пад машыны па цэлым тыдні, і Шарынец прыспешвае яго. «Звольнюся я, — злаваў тады Слаўка, — надаела мне ўсё гэта. Вечна ў дарозе, у камандзіроўках, ажаніцца няма калі». «Звальняйся, — не пярэчыў Шарынец, — незамянімых няма».

Шарынцу здавалася, што Слаўка палохаў яго: куды ён падзенецца? Хіба што з «Сельгастэхнікі» ды ў саўгас папросіцца. Але як бы там яму мёдам намазана.

Але Слаўка падаў заяву: «У Чарнобылі за электрастанцыю ўзяліся, дык і я... Там жа, мабыць, і заробкі не тое, што ў вас, Каленікавіч».

Не хацелася Шарынцу адпускаць Слаўку, бо хоць ён часам і бурчыць, але ж сваю работу знае, машына ў яго заўсёды спраўная, на хаду. Дык не падаць жа перад ім на калені...

Болей года Шарынец сам вадзіў службовага «Масквіча». Пасля таго, як Слаўка падаўся ў Чарнобыль, узяў перш аднаго хлопца, але таго праз нейкі месяц прызвалі ў армію. А другі аказаўся п'янчужкам, так і лучыў момант, каб захалтурыць на пляшку «чарніла». Неўгадно было, але тут зноў Слаўка аб'явіўся.

«Зарабіў я трохі, Павел Каленікавіч, і хопіць, — пахваліўся ён. — Да мяне дайшлі чуткі, што вы тут без мяне прападаеце».

«Ох, і вецер ты, Слаўка! — Шарынец быццам абурыўся, але душа яго спявала, бо як убачыў Слаўку, то нібы гара з плеч. — Але не брашы, прызнайся, чаму там не прыжыўся?»

— На заробкі, Павел Каленікавіч, грэх крыўдзіцца. Але ажаніўся я, а там хоць і невялікая чарга на кватэру, але ж чарга, а тут у маіх бацькоў такая даміна...

Зноў яны са Слаўкам ганялі па ўсёй краіне, выбівалі запчасткі да сеялак-веялак-камбайнаў, да грузавікоў-легкавікоў...

...Праз якую гадзіну вартаўнік ужо расцягнуў між хвоек снасць, каб сохла. А рыба ляжала тут жа. Яна варушылася, пералівалася ў месяцавым святле жывым срэбрам.

— Во, Каленікавіч, удача пайшла ў руку, — вартаўнік браў з зямлі рыбу, кідаў яе ў цэлафанавыя мяхі. Ляшча — у адзін мех, шчупака — у другі, ліня — у трэці. Цяпер, каб столькі злавіць, трэба ўсю ноч бурлачыць... А што ж — як паставілі каля Чарнобыля электрастанцыю, паменела рыбкі... Рыба— яна любіць чысценькую вадзіцу, а з той станцыі, каб яна згарэла, што толькі, мабыць, не плыве ў раку...

— Каб табе, Кузьміч, язык завязала, — ціха вылаяўся Слаўка, — калі што якое, знаеш, што тады будзе? Не знаеш? Не да рыбкі тады...

— Чаго ты? Я ж да слова, — апраўдваўся вартаўнік.

Калі Слаўка з Шарынцом укінулі рыбу ў багажнік, Шарынец спытаў:

— Колькі з мяне, Кузьміч?

— Каб не крыўдна было ні вам, ні мне — паўтары сотні. З каго другога мо і болеў узяў бы, а з вас... Лодачны матор паднасіўся, кольцы даўно пара памяняць, але хіба яны дзе валяюцца? У нас тут кожны смаркач мае лодку з маторам. Дык мо вы, Каленікавіч, выручыце? У вас жа, пэўна, гэтага дабра пропасць.

Шарынец адлічыў паўтары сотні, аддаў вартаўніку, падзякаваў, сказаў:

— Не ведаю, не абяцаю... «Сельгастэхніка» — не рака, дзе рыба не палічана... У нас кожны вінцік на ўліку...

Выбраліся на шашу, калі развіднела.

—Не, вы паглядзіце на яго — заламаў за рыбу такую цану, і ў яго яшчэ хапае нахабства нешта выманьваць, — не змоўчаў Шарынец.

— Ідзіце, Каленікавіч, вазьміце дзе сёння гэтай рыбкі, — адказаў шафёр. — А вам з ракі на скавародку... Кольцы да матора вы яму пашукайце — мо і яшчэ калі давядзецца прасіць.

— Ды ну цябе, Слаўка! — не стрымаўся Шарынец. — Па-твойму, без гэтых гешэфтаў свет існаваць не можа? Можа... І вось што: першы і апошні раз мы звярнуліся да гэтага чмура. Захочаш калі парыбаліць са мною — вуды шукай.

— Лаўлю, Каленікавіч, на слове.

●

Справілі дачцэ вяселле, і яна махнула да мужа ў Мінск: той заканчваў сельгасінстытут. Ён жыў у інтэрнаце, а яна — у Шарынцовага адзінокага пляменніка. Да замужжа Тома скончыла ў Мазыры медвучылішча, але ў Мінску фельчарам уладкавацца не змагла — не было прапіскі. З пляменнікам Шарынец неяк гаварыў пра тое, што дачцэ трэба прапіска, дык хоць і радня, але ж задарма хіба хто сёння вельмі разгоніцца? У Шарынца было тры тысячы, дык жа ўхайдокаў на вяселле, на пасаг дачцэ...

У дзіцячы сад прыстроіў Томку, выхавацелькай у малодшую групу, бо ў садзіку ёй зрабілі прапіску. Хоць і часовую, у інтэрнаце, але ж затое нікому не трэба плаціць. Праўда, давялося ў пашпартным стале пакланіцца капітану, каб той выпісаў дачцэ другі пашпарт, дзе не было б загсаўскай пячаткі. «Паклон» той таксама не за «дзякуй» абышоўся, але ўсё ж куды менш, чым давялося б за прапіску...

Праз год Томка нарадзіла дачку, жыла ў роднай хаце, а зяць наведваўся амаль кожныя выхадныя.

— Тата, Саша ўжо заканчвае інстытут, трэба думаць, дзе прыляпіцца ў Мінску, — звярнулася неяк дачка да Шарынца. — Пакуль не накіравалі ў якую глухамань...

— Не знаю, Тома, што й рабіць, — Шарынец разгубіўся, — як вас траіх прыпісаць?

Потым Шарынец параіўся з жонкай:

— Не знаю, Насця, што й прыдумаць.

— Томка — адзіная ў нас дачка, Павел...

— Усё-такі калі дзеці будуць побач, то і нам спакайней. Я ўжо гаварыў з дырэктарам саўгаса — ён згодзен Сашу ўзяць да сябе, абяцае не пакрыўдзіць ні работай, ні акладам.

— Кажы гэта дзецям, а не мне...

Нейкі час зяць з дачкою жылі ў Шарынцовай хаце. А чаму б ім і не жыць тут? Хата вялікая, на ча-

Без гэтай мэты запаветнай —
Хто мы?!
Служакі нарыхтоўчае канторы?
У родным старажытна-слынным доме
Жыць у падсуседзях?
На сметніку гісторыі?!

Прыпар на ўзлеску... Божая нядзеля.
Зяхае недзе гром...
Ці прамаўленні?
Я слухаю ў галлі, ў траве — Падзею!
Ідзе па землях рушанне...
Надзея!
Народна-франтавое Адраджэнне.

24.VI.1989, Слонімшчына, Вецявічы.

## Сапёрная лапата

Яе ніхто не вешаў, нібы зброю,
Начысціўшы да бляску, на сцяну.
Хоць і насіў пры поясе з сабою
З кінжалам і набоямі ў вайну.

Сапёрная лапата — не кінжал.
Няма ў яе такога піетэту.
Ды не таму, што менш яна апета,
Я сёння пра яе пішу, на жаль.

Хоць у яе заслуг было нямала:
Акопам прыкрывала на вайне,
Укопвалася ўглыб і ратавала,
А колькі пахавала там, на дне!
Ды ўнучка той лапаты — о, няслава! —
Крывава паласнула і па мне.

Яна паўстала — не ў суглінку глёўкім,
Не ў рэштках жвіру, дзёрану, травы.
Я не магу ўявіць цябе, рыдлёўка,
У свежа-змочанай людской крыві.

Як мне ўявіць цябе ў руцэ салдата,
Што з похвы выхапіў —
сячэ, сячэ?
Кроў па табе, па чэране, цячэ
На карнікаў,
спецвывучаных катаў.

Сціскаючы кальцо смяротнай пасткі,
Ты вышкалена сееш жах і стогн.
Хто ўпаў, паўзе —
крыжуеш іх на часткі
Шалее па кустах і хруст, і звон.

О, ганьбішча палпотаўцаў, дыктату!
Кроў пыршча на каменне, на лісты,
На веру, на сумленне... Колькі страты!
Хто злічыць тыя страты?!
Цяміш ты,
Што ты ўчыніла, брудная лапата?

Сцюдзёнаю вадою не адмыцца
Табе і безгалоўую ўладароў.
Бо кроў людская — гэта ж не вадзіца,
Яна ў зямлі не чэзне!
І злачынцам.
Напомніць пра сябе
Святая кроў.

## Сляза дэспата

Канаў, нарэшце, ён — злыдушны бог.
Такога свет ці помніць крыважэру!
Ён ведаў, што смяротна занямог,
Але ў бяссілле ўладнасці не верыў.

На ложы сумным ён хацеў не шмат.
Здагадваўся — адкуль яго паралюш.
Караў жа ён тым самым акурат,
Чым і яго, хоць позна, пакаралі.

Атрута, ўсемагутная багіня!
Спакон ёй паслугоўваліся ўсе.
Што сам дарыў забойца, пакрысе,
Няўжо, нарэшце, ад таго ж загіне?

Яму адмерыў нехта той жа мерай.
У жоўтых зрэнках скача д'яблаў сто.
У пальцы ўклалі карандаш, паперу.
Рука дрыготка піша, грозіць:
Хто?!

Яму патрэбна ведаць на астанак:
Даверыўся ў няверʼі ён —
Каму?
Не ўсіх ён, значыць, бліжніх і адданых
Перасадзіў, упёк на Калыму.

Яшчэ не ўсіх ублытаў у злачыннасць,
Хоць і купаўся ў ёй, раскашаваў.
Самадзяржаўя злую дэспатычнасць
Ён проста традыцыйна шанаваў.

Дзяржаўных шавіністаў, супастатаў —
Хай не крыўдуюць —
Не даваў на здзек.
І не ад іхніх рук, відаць, адплата
За нацыі, што разам дружна сек.

Тут мафіі, няйначай, атачэнне.
Ізалявана ўсё — ляжы, канай.
Рука пытае: хто?!
Неразуменне...
Іх цешыць у вачах яго адчай.

Мільгнулі постаці:
Вось так і Ленін...
І Горкі так...
І памяць — як з ляза.
А па васпінах чорнага сумлення
Гаруча ўпершыню
цячэ сляза.

тыры пакоі. Залетась Шарынец прырубіў яшчэ кухню. З печкай, з сенечкамі і асобным уваходам з двара. Ці ж для сябе стараўся ён? Думаў, каб дачцэ з зяцем не цесна было.

У выхадныя Шарынец са Слаўкам імчалі ў Прыпяць — гарадок, дзе атамная электрастанцыя. Па дарозе Шарынец скардзіўся:

— На якую халеру я ставіў сабе гэтакую харміну? Не хочуць дачка з зяцем жыць у мяне.

— Іх, Каленікавіч, трэба зразумець. Яны самі хочуць быць гаспадарамі, а каля вас яны і пасварыцца не могуць, а што гэта за жытка без сваркі? — скаліў зубы Слаўка.

Шарынец трохі недалюбліваў свайго шафёра: хоць ён і безадмоўны ў рабоце, але ніколі не было, каб ён падтрымаў, прыняў яго, Шарынцоў, бок. Часцяком намякае, што іншы чалавек на Шарынцовай пасадзе прыпяваючы жыў бы. Запчасткі — такі хадавы тавар. І зараз во зноў...

Прыпяць — новы гарадок. Вырас упобачкі з атамнай электрастанцыяй. І расце ўсё, займае новыя землі каля вялікай палескай ракі. Тады, як паставілі ў самым сэрцы Палесся гэтую станцыю, у навакольных вёсках шмат хто абураўся — каму трэба гэтая скула пад бокам? Але ўжо каторы год станцыя працавала, людзі звыкліся з ёю, зміраліся.

У Прыпяці ў гастраномах заўсёды прылаўкі былі не пустыя. А ў райцэнтры, дзе жыве Шарынец, ужо і забыліся, калі ў магазіне была каўбаса ці мяса. Назад вярталіся з поўным багажнікам — накуплялі не толькі сабе, а і суседзям.

Калі праязджалі непадалёку ад станцыі, Слаўка кіўнуў галавою:

— Глядзі ты, усё чмыхае і чмыхае на поўную нагрузку, а я баяўся...

Шарынец быццам хацеў ахапіць позіркам усю тэрыторыю станцыі, бачыў, якая яна вялікая, і ў той момант на душы ў яго станавілася трывожна. Слаўка, канечне, балбатун, мо і перагінае недзе трохі, але ж чалавек сваімі вачыма бачыў, што дзеля плана гналі будоўлю. Ці на дабро тое? Трывога, што нагарнулася на сэрца, не прападала.

— Вось ты, Слаўка, кажаш, быццам вы, маладыя, хочаце быць незалежнымі ад бацькоў, самастойнымі, — працягваў Шарынец размову, пачатую, калі яшчэ ехалі ў Прыпяць, — але ж як вам без нас? Вунь мая Тома... Яе дзіця нарадзілася з недаразвітай ныркай, дык за ім жа трэба не абы-які догляд. Мы з жонкаю ўсё лета збіраем траўкі, поім дзяўчынку зёлкамі, адварам... Каб не паілі, то... А як перабяруцца дачка з зяцем ад нас, тады што? Сабе дабра шукаюць, а дзіця? Пра яго яны падумалі?

— Нічога вы, Каленікавіч, не зробіце, — спакойна адвёў усе яго довады шафёр, — раз настроіліся зяць з дачкою аддзяліцца, то лепш вы не ўмешвайцеся.

Да самага дома Шарынец маўчаў: падобна, што Слаўка як у ваду глядзеў. Але лёгка сказаць — аддзяліліся, а дзе жыць?

Шарынец пазіраў на зяця і думаў, каб яго знешнасць ды дзяўчыне: валасы пышныя, зубы роўныя, беленькія, а ўсміхнецца — залюбуешся: прыгажун. Нездарма Тома лістам сцелецца перад ім, пэўна, баіцца, каб хто не адбіў. Знешнасць у зяця дзявочая, а вось характар... Бач, як набукроіўся, настроіўся аддзяліцца, то што яму ні кажы, а ён гне сваё...

Дырэктар саўгаса, даведаўшыся, з чым завітаў да яго Шарынец, нават абрадаваўся:

— Ніяк не магу выселіць адну заразу. Я і да пракурора хадзіў, і ў суд падаваў — усё дарма. Яна ж сысціся з мужам сышлася, але шлюб не афарміла, і, выходзіць, у яе на гэтую кватэру поўнае права.

Дырэктар — малады, але дзелавы, пранырлівы хлопец, на гэтай пасадзе не так даўно, з Шарынцом знаёмы добра, бо ледзь што паломіцца ў бульбакапалцы, то да яго, да Шарынца, трэба бегчы ды прасіць.

— Я, здаецца, здагадваюся, у чым тут загваздка, —хітра жмурыў свае шэра-блакітныя вочкі пад рыжымі вейкамі дырэктар.—Падмазаць трэба... Ох, і кабеціна... Не ўварве — жывая не будзе.

— Як ты, Платонавіч, думаеш, колькі трэба?

— Хто яго ведае. Але, мабыць, сарве ўжо. Кватэра трохпакаёвая з садком... А малліннік які там, ведаеш? Маліны буйныя, салодкія...

Шарынец сабраўся ўжо на выхад, але дырэктар яго затрымаў, сказаў напаследак:

— На гэтую кватэру, Каленікавіч, ведаеш, колькі ахвотнікаў? Але так і быць — уступаю табе, дык ты ўжо, калі што, не крыўдзі мяне.

— Ты, Платонавіч, наперад страхуешся? Хочаш, каб калі што дэфіцытнае з'явіцца на маёй базе, то табе ў першую чаргу? Ну, што вы за людзі, што за народ?! Як бы гэта мае ўласныя запчасткі там, як бы гэта мая ўласная база! Калі ты так ставіш пытанне, то не трэба мне твая кватэра, аддавай каму-небудзь другому.

— Страгач ты, Каленікавіч, ох, які страгач! З ім і пажартаваць ужо нельга...

Праз месяц дачка з зяцем перабіраліся ў трохпакаёвую саўгасную кватэру. Яны ўжо ад шчасця былі як не на сёмым небе, а Шарынец хадзіў чорны, як зямля.

— Ну што ты, татачка? — пацалавала яго ў шчаку дачка.—Мы ж так блізка ад вас з мамаю, і вы заўсёды, калі захочаце, прыйдзеце.

Шарынец не сказаў ні дачцэ, ні зяцю, у што абышлася гэтая кватэра — чаго добрага, яшчэ падумаюць, быццам ён — скнара, для сваёй адзінай дачкі яму шкада нейкай тысячы. Яно так, але хіба ў яго гэтыя тысячы валяюцца? Цяпер вось трэба і новая мэбля ў гэтую кватэру, дываны-дарожкі, такі-сякі рамонт зрабіць...

●

Вудзільна ўздрыгнула, Шарынец выхапіў яго з вады: на кручок папаўся гладкі лешч.

— Ага, хоць адзін, ды мой! — знарок выгукнуў Шарынец, каб пачуў Слаўка, але той не абазваўся: от ужо дзе рыбак! Як сядзе ля вады, то пра ўсё на свеце забывае...

У тым баку, дзе Чарнобыль, бы прагрымеў гром, і адразу ж успыхнула чырвонае зарыва. Яно шырылася, займала ўсё большую палову неба, здавалася нейкім жудасным, злавесным...

— Слаўка, ты бачыш? — з трывогаю спытаў Шарынец.

— Навальніца, мабыць, пачынаецца. Гэта добра — у навальніцу самы клёў.

— Што ты чаўпеш? Якая навальніца — красавік жа... Мабыць, не тое... Збірайся дахаты...

●

Днём Шарынец з жонкаю саджалі ў саўгасе буракі—быў нядзельнік. Стаяў ясны красавіцкі дзень, узяло на цяпло, нават трохі прыпарвала, і ўсе, хто быў на бураках, парасправаліся, паскідалі з галоў шапкі, хусткі...

— Мой жа Павел сённячы рыбу лавіў, — хвалілася Насця, — дак гаворыць, быццам бачыў зарыва і чуў гром... А я кажу — падалося, мабыць. Нідзе ж і кроплі дажджу.

Здаецца, недзе аж на пяты дзень пасля гэтага абʼявілі, каб людзі без дай прычын не высоўваліся з хат, панакрывалі плёнкаю калодзежы. А дзяцей адправілі ў піянерскія лагеры аж за Мінск, пад Маскву...

— Дык во якое зарыва бачыў я! — здагадаўся Шарынец.

Унучка хныкала ўсе тры дні, і Шарынец спехам адправіў дачку ў Крым, да сваякоў. Адтуль Тома пісала, што яе дзяўчынка болей не кволіцца. А вярнулася — унучка зноў зрабілася млявая, нічога не лезла ў рот...

— Зʼедзем мы адсюль, — абвясціў зяць.

— Звар'яцеў ты, Саша, ці што? — не паверыў Шарынец. — Я столькі выкінуў грошай, каб дабіцца гэтай кватэры, і як кату пад хвост, так?

— Я магу і застацца, але ж дзіця... Каб хоць здаровае... Хворая нырка і без таго даймала, а тут яшчэ гэтая трасца...

Шарынец як вады ў рот набраў — што тут скажаш?

Недзе пад Вільнюсам уладкаваліся зяць з дачкою. Яму там, канечне, не горш, як і дома — там ён галоўным інжынерам у калгасе, а дачка — выхавацелькаю ў садзе. І ўнучцы добра — бегае, гадуецца, хворая нырка амаль не даймае...

А Шарынца галаўны боль усё не адпускае. Ён быў ужо і ў паліклініку наведаўся, дзе выседзеў некалькі гадзін: на ўсю паліклініку застаўся адзін урач, бо тыя, што раней тут працавалі, пакідалі ўсё, зрынуліся з абжытага месца.

Доктара, што абслугоўваў хворых, Шарынец ведаў: малады, высокі, з тонкімі доўгімі рукамі ён заўсёды бы ўзіраўся ў далечыню разгубленым позіркам. У доктара свой легкавік, і калі ў ім знасіліся крыжавіны, то ён неяк звярнуўся да Шарынца...

— Я сам хутка злягу, — паскардзіўся доктар. — Бачылі, якая чарга ў калідоры? І гэтак кожны дзень, а я адзін... Нам тут плацяць цяпер па два аклады, але мае калегі не захацелі і двух акладаў, ім хочацца жыць... А я? Хіба я горшы за іх? Але ж некаму трэба і лячыць людзей...

Доктар параіў Шарынцу выпіць некалькі ёдавых кропель і на кожны дзень «Кабернэ». Шарынец ледзь не зарагатаў: ніколі не было такога, каб хто з урачоў лячыў чырвоным віном, а тут на табе...

З паліклінікі Шарынец праставаў дадому. Неўзабаве ён быў на ўскрайку пасёлка, адкуль відно поле, на якім саджалі буракі. Па ім хадзілі ваенныя з нейкімі доўгімі дзяржакамі ў руках, вельмі падобныя на граблі. Ад «грабляў» ішлі правадочкі да прыбора, што вісеў у кожнага на рамяні на шыі. Шарынец здагадаўся, што гэта дазіметр... Ваенныя вадзілі «граблямі» па зямлі і пры гэтым не адводзілі позірку ад прыбора... Некалі адразу пасля вайны ваенныя прачэсвалі кожную лясную паляну, кожны лапік зямлі, здаецца, такімі ж вось самымі «граблямі» — шукалі міны... Адзін ваенны зрабіў неасцярожны крок, і з-пад яго ног шугануў угару слуп агню, зямлі і чорнага, што пахнуў трацілам, смярдзючага дыму... І зараз, пазіраючы на гэтых з «граблямі» ў руках, што рассыпаліся па полі, дзе пасаджаны саўгасныя буракі, Шарынец адчуваў, як па скуры прабягаў мароз: яму ўсё мроіўся той смярдзючы слуп агню, зямлі і дыму...

Шарынцова хата побач з чыгуначнай станцыяй і леспрамгасам. Ад такога суседства не надта каб соладка. Па чыгунцы дзень і ноч грукацяць саставы, а леспрамгас... Вось і зараз насустрач яму поўз, як жук па грязі, гружаны да верху доўгімі хлыстамі лесавоз. Цяжка яму, і матор натужна выў, ледзь валок даўжэзны прычэп. Гэтыя прычэпы да таго павыбівалі дарогу, што ўся яна ў ямінах-выбоінах. За лета дарогу не раз падсыпаюць, раўняюць, але толку з таго — пройдзе раз лесавоз з прычэпам, і дарога зноў гарбатая...

У нос ударыла гарачым асфальтам. Адкуль узяцца тут асфальту? Колькі раней папахадзілі людзі ў выканком ды папрасілі, каб заасфальтавалі дарогу, бо ад лесавозаў ніякага жыцця, ніякага ратунку: як прасунецца міма, то столькі падыме пылоты, што зачыняй не зачыняй вокны-дзверы, а ў хаце мэбля заўсёды сівая. З году ў год у выканкома не даходзілі рукі да гэтай дарогі...

На адным канцы вуліцы асфальтаўкладчык клаў тоўсты слой чорнага асфальту. «Ось і вуліца людская, — падумаў Шарынец. — Цяпер, здаецца, толькі і жыць...»

Зранку, калі Шарынец збіраецца на работу, жонка доіць карову, працэджвае малако, разлівае ў трохлітровыя слоікі і выносіць на двор—малаказборшчык днём абʼязджае на падводзе ўсе двары, у каго каровы, і забірае малако. Піць яго людзям забараняе санстанцыя, дык здаюць...

— Давай адвядзём карову на базу, — сказала неяк жонка, — якая карысць з яе?

— Ох, якая ты ў мяне, жоначка, спрытная! Здадзім... Гэта нядоўга... А ну, як вернуцца дзеці, а мы без каровы?

Вечарам Шарынец стаіць у двары, пазірае ў бок чыгуначнай станцыі, прыслухоўваецца, ці не прыбыў пасажырскі цягнік. Іншы раз пад выхадныя дачка з зяцем і ўнучкай не-не, ды і наведваюць іх. А мо і сёння? Збяруцца яны ўсе разам і вырашаць — адводзіць карову на базу ці не. А то жонка сама за ўсіх вырашыла...

Пасажырскі цягнік спыніўся, але ніхто са станцыі не прастуе сюды, у бок Шарынцовай хаты. У горле ў Шарынца быццам штосьці перасела. Ён абводзіць няўцямным позіркам двор, агарод, хату, хлеў... Пасярод двара — бела-чырванаватыя, бы ўгнаенне, «пясок». Такога вось «пяску» прывезлі ўсім, у каго ёсць агароды. Сказалі, каб яго раскідалі па сотках, прыаралі — гэты «пясок» дэзактывуе зямлю...

Музыка

# НАВАТ КАЛІ Б ЗДАРЫЎСЯ ПАЖАР...

## ШТРЫХІ ДА ПАРТРЭТА НАРОДНАЙ АРТЫСТКІ БССР ТАЦЦЯНЫ КАЛАМІЙЦАВАЙ



Яе творчая біяграфія расказана і пераказана не адзін дзесятак разоў на старонках газет і часопісаў—не толькі нашай рэспублікі, але і ўсесаюзных. Здавалася б, дадаць асабліва няма чаго... Ды вось у рэдакцыі «ЛіМа» ўзнікла ідэя: няхай з нагоды юбілею Тацціяны Міхайлаўны скажуць яе паплечнікі—аркестравыя музыканты і салісты оперы, чый творчы шлях непасрэдна судакранаўся з дзейнасцю дырыжора Каламійцавай.

**С. Асновіч, заслужаны артыст БССР.** У 1946 годзе Тацціяна Міхайлаўна прыйшла да нас у сімфанічны аркестр Беларускай дзяржаўнай філармоніі працаваць другім дырыжорам. Яна, помніцца, нас вельмі тады зацікавіла. А як жа: жанчына—дырыжор! І, ведаеце, з першай жа рэпетыцыі яна нам вельмі спадабалася. Пачалі прыглядацца да яе. Думаем: першае ўражанне зманлівае. Ды не. Да канца працы яе з аркестрам мы ў ёй так і не расчараваліся. І я шчаслівы, што зараз пра гэта магу казаць.

**Карэспандэнт.** Можа, гэта Тацціяна Міхайлаўна ў вас расчаравалася і таму перайшла потым на працу ў оперны тэатр?

**С. Асновіч.** Думаю, яна ў нас таксама не расчаравалася, але вось чаму перайшла працаваць у оперу, я дасюль не ведаю.

**Л. Гарэлік, народны артыст БССР.** Здаецца, з 1952 года Тацціяна Міхайлаўна ў асноўным працавала ўжо ў Дзяржаўным тэатры оперы і балета БССР. Яе вельмі любілі. Усіх уражваў яе найвысокі прафесіяналізм. На рэпетыцыі яна прыходзіла настолькі падрыхтаванай, што я б вельмі многім дырыжорам, з якімі даводзілася працаваць, параіў гэтай якасці ў яе павучыцца.

**Карэспандэнт.** Я чуў, у Каламійцавай выдатная музычная памяць?

**Л. Гарэлік.** І не толькі музычная. Пра гэта я яшчэ скажу. Дык вось, здавалася б, такая дробязь, як расставіць струннаму квінтэту штрыхі на рэпетыцыі або пасля яе. Дык Тацціяна Міхайлаўна не дапускала, каб штрыхі расстаўляць на рэпетыцыі. Ні ў якім разе! Гэта мы рабілі па вечарах. Яна казала: недаравальна марнаваць рэпетыцыйны час на расстаноўку штрыхоў.

Дык вось, пра памяць. Неяк іграем мы спектакль «Лебядзінае возера». Мінае час, а мне здаецца, Тацціяна Міхайлаўна не перагарнула ніводнае старонкі партытуры. Я часцей пачаў пазіраць на яе пульт. І што вы думаеце: да канца спектакля яна так і не разгарнула партытуру. Гэта быў першы выпадак. Потым ужо мы такому не дзівіліся. Усе спектаклі яна магла дырыжыраваць без партытуры.

**С. Асновіч.** У Тацціяны Міхайлаўны музычная памяць цудоўная! Аднойчы наш аркестр павінен быў іграць з Ленінградскай харавой капэлай і з ленінградскімі салістамі «Рэквіем» Вердзі. Партытуру, гэта я добра памятаю, Тацціяна Міхайлаўна атрымала літаральна за некалькі дзён да рэпетыцый. І вось—канцэрт, гэта было ў Доме афіцэраў. Яна выходзіць на сцэну... без партытуры, становіцца за дырыжорскі пульт—у нас пачынаецца лёгкі мандраж. Зараз не помню, за што мы больш баяліся: за «Рэквіем», за сваю ігру ці за яе рэпутацыю. Ну, і ўявіце сабе наш стан, калі яна без партытуры бліскуча прадырыжыравала «Рэквіем»... Такі даравіты чалавек. За многія гады працы ў аркестры мне давялося іграць з 159 дырыжорамі. Тацціяну Міхайлаўну я стаўлю ў першы дзесятак лепшых з іх.

**А. Генералаў, народны артыст БССР.** Тацціяна Міхайлаўна ведала ўсё: у якім тэатры хто як пяе, дзе што ставяць, хто дырыжыруе і да т.п. Гэта—камп'ютэр ведаў. І не толькі з галіны express опернага мастацтва. Я спяваў у яе ў такіх спектаклях, як «Трубадур», «Аіда», «Рыгалета», «Кармэн», «Арэстэя». Яна ўмела працаваць над вобразам і ў той жа час ніколі не была дыктатарам. Давярала спеваку, давала магчымасць праявіць ініцыятыву, праявіць індывідуальнасць. Быць патрабавальнай, ды не быць дыктатарам, паверце, вельмі рэдкая рыса характару дырыжора.

**Карэспандэнт.** Наколькі я ведаю, за ўсе гады працы ў тэатры Каламійцава ніколі не была на пасадзе галоўнага дырыжора.

**А. Генералаў.** Што вы! Падаваць усялякія заяўкі ў рэжысёрскае ўпраўленне, рыхтаваць справаздачы, сядзець на сходах ды шмат чым іншым, што не мае дачынення да музыкі, займацца—гэта не для яе. Тацціяна Міхайлаўна ўся ў музыцы і толькі ў музыцы.

**Л. Галушкіна, народная артыстка БССР.** Я не сустракала дырыжораў, якія б гэтак апантана заглыбляліся ў сваю працу. Каламійцава ў гэтым сэнсе—проста фанатык. Ідзе насустрач і цябе не бачыць. Кажу: «Дзень добры, Тацціяна Міхайлаўна». Яна схамянецца: «Ой, добры дзень. Даруйце, дальбог, не ўбачыла».

**Карэспандэнт.** А спевакі, кажуць, трошкі баяліся яе...

**Л. Галушкіна.** Яна нікому спакою не давала. Сама была заўсёды настуненая і ад іншых патрабавала аддачы ў рабоце. «На-паўнагі» ў яе рэпетыцыю не адпрацуеш. І баяліся яе тыя, каму абы адбыць свае гадзіны працы. А тыя, хто хацеў нешта зрабіць, нечага дамагчыся, вельмі любілі яе і цяпер любяць.

**У. Экнадзіёсаў, заслужаны артыст БССР.** Я заўсёды адчуваў, як яе працаздольнасць перадаецца мне. Бывае, калі ў цябе па розных прычынах кепскае самаадчуванне, з першых секунд працы з Тацціянай Міхайлаўнай ловіш сябе на тым, што стомленасць некуды

# АДЫХОДЗІЦЬ У НЯБЫТ?

## НЕВЯСЁЛЫ РОЗДУМ ПРА «ВЫЗНАЧАЛЬНУЮ РОЛЮ» НАРОДНА-ІНСТРУМЕНТАЛЬНАЙ МУЗЫКІ

**СЯРОД МНОГІХ ЖАНРАЎ** музычнага мастацтва, якія плённа развіваюцца на Беларусі, далёка не апошняе месца займае жанр народна-інструментальны. Адно з яскравых сведчанняў яго жыццёвасці і актыўнасці — гэта артыкулы і нататкі, якія амаль штомесяц з'яўляюцца ў рэспубліканскім друку і адлюстроўваюць пэўныя моманты гісторыі беларускай народна-інструментальнай культуры, розныя бакі народна-інструментальнага выканаўства: сольнага, ансамблевага, аркестравага. Адлюстроўваюцца праблемы бытавання прафесійнай і аматарскай, традыцыйнай і акадэмічнай творчасці, праблемы вырабу нацыянальных музычных інструментаў, падрыхтоўкі музыкантаў адпаведнага профілю, фарміравання арыгінальнага нацыянальнага рэпертуару для інструменталістаў-народнікаў.

Ды насцярожвае той факт, што многія публікацыі на вельмі надзённыя тэмы як бы згладжваюць той няпросты і нялёгкі шлях, якім прабівалася і прабіваецца ў жыццё беларускае народна-інструментальнае мастацтва. Усім нам вядома пра цяжкасці (аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару) развіцця народна-інструментальнага жанру ў многіх рэспубліках нашай краіны, у асобных рэгіёнах РСФСР, і міжволі ўзнікае пытанне: а ці не ідэалізуецца ў друку стан аналагічных спраў на Беларусі?

Так-так, працэс развіцця народна-інструментальнага жанру ў нашай рэспубліцы трывожны. Адной з найбольш сур'ёзных, адной з многіх, я сказаў бы, старанна назапашаных праблем з'яўляецца яўная неадпаведнасць паміж дэклараваннем даўно ўжо агульнапрызнанага тэзісу аб вызначальнай ролі традыцый нацыянальнага інструментальнага фальклору ў развіцці прафесійнай народна-інструментальнай культуры і сапраўдным станам спраў у галіне вывучэння і творчага асэнсавання гэтых самых традыцый.

Паглядзім, якія ж рэальныя адносіны да інструментальнага фальклору ў рэспубліцы. Як вядома, з канца 60-х гадоў ажывілася грамадская цікавасць да традыцый нацыянальнага фальклору, як песеннага, так і інструментальнага. Гэта было характэрна для ўсёй краіны. Ладзіліся розныя фальклорныя вандроўкі, святы, фестывалі, ствараліся ансамблі этнаграфічнага тыпу. Фальклорныя элементы паступова пранікалі ў акадэмічную сімфанічную, харавую і джазавую музыку, у бытавое музіцыраванне. Словам, фальклор выйшаў за рамкі інтарэсаў спецыялістаў, і цікавасць да яго ў нейкай ступені набыла рысы моды.

Плынь «новай фальклорнай хвалі» (так называлі гэты накірунак мастацтвазнаўцы) узнікла і ў нас. У яе рэчышчы з'явіліся і працягваюць з'яўляцца многія яркія мастацкія падзеі, якія ўзбагачаюць музычную культуру рэспублікі. Напрыклад, у галіне выканаўства — ансамблі «Песняры», «Харошкі», аркестравая група Дзяржаўнага народнага хору БССР, ансамблі народнай музыкі «Свята», «Жывіца» і інш. У галіне народна-інструментальнай творчасці — творы А. Мдзівані, Д. Смольскага, В. Іванова, В. Помазава і іншых кампазітараў.

У апошняе дзесяцігоддзе цікавасць да беларускага інструментальнага фальклору выявілася з асаблівай сілай. Гэтаму садзейнічалі, з аднаго боку, характэрная для краіны ў цэлым тэндэнцыя да «фальклярызацыі» акадэмічнага накірунку народна-інструментальнай творчасці, з другога — многія суб'ектыўныя прычыны: выданне першай у рэспубліцы фундаментальнай працы, прысвечанай беларускім народным музычным інструментам (аўтар І. Назіна), плённая дзейнасць музыкантаў-энтузіястаў У. Грома, В. Купрыяненкі, У. Пузыні, А. Скорабагатчанкі, В. Пархоменкі.

Значны ўплыў зрабілі і агульныя працэсы, што адбываюцца ў грамадскім жыцці. Уздым нацыянальнай самасвядомасці, звязанае з ім абуджанае імкненне да пазнання гісторыі, мовы, культуры роднага краю ўцягнулі і музычны фальклор у зону павышанай грамадскай увагі. Такая шчырая і актыўная цікавасць шырокіх пластоў грамадскасці, якую выклікае ў нашы дні беларуская традыцыйная народна-інструментальная творчасць, была на Беларусі, пэўна, толькі ў 20-ыя гады, у перыяд адраджэння нацыянальнай мастацкай культуры.

**Успомнім, дарэчы, гісторыю: той перыяд шмат даў нашаму музычнаму мастацтву. Менавіта тады расквітнеў талент цудоўных беларускіх цымбалістаў-віртуозаў І. Жыновіча, С. Навіцкага, Х. Шмелькіна, былі праведзены першыя ўдалыя спробы рэканструкцыі беларускіх народных музычных інструментаў, створаны аркестравыя віды цымбал, адбыліся першыя замежныя гастролі беларускіх інструменталістаў - народнікаў; шматлікія выстаўкі, на якіх экспанаваліся беларускія народныя музычныя інструменты, прыцягнулі ўвагу сусветнай музычнай грамадскасці да мастацкай культуры беларусаў, пачалі афармляцца беларуская народна-інструментальная прафесійная школа і сістэма навучання ігры на нацыянальных народных інструментах, з'явіліся першыя арыгінальныя творы, напісаныя спецыяльна для народных інструментаў, для нацыянальнага аркестра, — усяго не пералічыць... Але, асмелюся сцвярджаць, усе дасягненні тых гадоў былі б немагчымымі, калі б музыканты рэспублікі не абапіраліся на багатыя традыцыі нацыянальнага інструментальнага фальклору. Цяпер жа, думаю, тэзіс аб вырашальным, вядучым значэнні фальклору ў развіцці самабытнай нацыянальнай музычнай культуры ператварыўся ў стары, зацяганы сцяг, і толькі вельмі нямногіх сапраўдных энтузіястаў натхняе ён на далейшыя творчыя подзвігі.**

Хіба гэта не так?

Паглядзіце, нашы ж прафесіяналы-народнікі да гэтага часу не ведаюць ды і, мусіць, не вельмі імкнуцца ведаць сваю родную мову — я маю на ўвазе мову традыцыйнага інструментальнага фальклору. Толькі адзінкі-падзвіжнікі вядуць агромністую знясільваючую, карпатлівую працу, мэта якой — сабраць, захаваць і зрабіць здабыткам многіх тыя крупінкі народнага скарбу, якія яшчэ не згубіліся канчаткова. І гэта ў той час, калі традыцыйнае мастацтва народных выканаўцаў, музычных майстроў адыходзіць незваротна, год ад году ўсё хутчэй, бо носьбіты яго ўжо дасягнулі крытычнага ўзросту.

Прадбачу, што абвінавачванне інструменталістаў-народнікаў у занядбанні, ігнараванні імі сваёй спрадвечнай, крэўнай музычнай мовы выкліча бурнае абурэнне апанентаў і будзе расцэнена як галаслоўная заява, таму звярнуся да фактаў.

Дзве творчыя ВНУ — Беларуская дзяржаўная кансерваторыя і Мінскі інстытут культуры, адзінаццаць музычных і чатыры культурна-асветніцкія вучылішчы рэспублікі штогод выпускаюць каля чатырохсот музыкантаў-народнікаў, будучых выканаўцаў, кіраўнікоў калектываў, педагогаў. За дзесяць гадоў — амаль чатыры тысячы спецыялістаў народна-інструментальнага жанру: ого якая магутная сіла! Але далей чытайце больш пільна...

Гадзіны на вывучэнне традыцыйнага народна-інструментальнага беларускага фальклору не прадугледжаны вучэбнымі планамі ніводнай са спецыяльных навучальных устаноў рэспублікі. Няма і адпаведных падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, метадычных распрацовак. Мала таго, няма пісьменных, дасведчаных у прадмеце педагогаў, якія маглі б не толькі «адкрыць» сваім выхаванцам складаны і бясконца разнастайны свет народна-інструментальнай музыкі, але і пазнаёміць іх хаця б у самых агульных рысах з сучаснай методыкай запісу і расшыфроўкі ўзораў народна-інструментальнай творчасці, з магчымымі прыёмамі мастацкай апрацоўкі фальклору, са своеасаблівасцю стылёвай выканаўчай манеры народных цымбалістаў, скрыпачоў, гарманістаў Беларусі, з традыцыйным інструментарыем беларусаў і мастацкімі магчымасцямі нацыянальных музычных інструментаў, з тыповымі рэгіянальнымі ансамблевымі складамі і спецыфікай народнай партытуры...

На вялікі жаль, няма педагогаў, падручнікаў, няма вучэбных гадзін, няма такой вучэбнай дысцыпліны для спецыялістаў-народнікаў, як «беларускі інструментальны фальклор» (?!). Няма ўсяго гэтага і на іншых аддзяленнях, нават на тых, дзе рыхтуюць музыказнаўцаў-фалькларыстаў і кампазітараў.

Зусім неверагодная сітуацыя, скажаце вы. Так, але яна даўно ўжо існуе і нікога, відаць, не бянтэжыць...

**Уявіце цяпер: ці магчыма было б такое, напрыклад, на філалагічным факультэце, на аддзяленні беларускай мовы і літаратуры? Каб у вучэбных планах там не было гадзін на вывучэнне нацыянальнай вусна-паэтычнай творчасці ва ўсёй яе жанравай разнастайнасці, тэарэтычных асноў фалькларыстыкі, каб не былі адведзены гадзіны на вывучэнне роднай мовы... Думаю, нашым філолагам такое і ў страшным сне не ўбачыцца. Бо зразумела, што для спецыялістаў дадзенага профілю ўсе гэтыя веды—аснова асноў, менавіта яны складаюць той грунт, на якім толькі і можа развівацца сучасная беларуская літаратура, мастацкая крытыка, ды што там казаць—мараль і культура народа ў цэлым. Бо хто ж, калі не філолагі, нясе галоўную нагрузку ў ганаровай справе фарміравання духоўнага аблічча нашага сучасніка!**

**Але чаму ж не насцярожвае нас тое неверагоднае, што зрабілася магчымым у галіне музыкі — яна ж таксама адыгрывае адну з першых роляў у духоўным станаўленні асобы?**

Так гістарычна склалася, што на Беларусі атрымаў афіцыйнае прызнанне, а таму і афіцыйнае развіццё толькі адзін напрамак народна-інструментальнай культуры, у той час як другі, спрадвечны, старажытны, звязаны з вуснай традыцыяй, працягваў развівацца толькі стыхійна ў натуральных умовах вясковага побытавага музіцыравання. Да ведама: ва Узбекістане, у Азербайджане, напрыклад, развіваюцца, і вельмі паспяхова, абодва напрамкі, у навучальных установах ёсць аддзяленні і традыцыйнага, і акадэмічнага народна-інструментальнага выканаўства.

Сёння беларускія музыканты-народнікі, прадстаўнікі акадэмічнага напрамку, у працэсе навучання грунтоўна далучаюцца да традыцый агульнаеўрапейскай музычнай цывілізацыі, вывучаюць заходнюю, класічную рускую і савецкую музычную літаратуру, атрымліваюць нават пэўныя звесткі пра нацыянальны песенны фальклор. Ды вось ад гле-

знікае, забываешся пра сябе, пра свае нягоды—ты ўжо ўвесь ва ўладанні гэтага вечна маладога і тэмпераментнага чалавека. Яе энергіі, працаздольнасці, тэмпераменту ой як нестае вельмі і вельмі многім маладым дырыжорам. «Травіята», «Фаўст», «Аіда», «Трубадур»—тыя спектаклі, якія я спяваў з Каламійцавай. «Казкі Гофмана» і цяпер пяю. Гэта адзіны спектакль, які пакінулі ў тэатры за Таццянай Міхайлаўнай. Думаю, гэта не зусім справядліва.

**Л. Галушкіна.** Каламійцава прыходзіла ў тэатр не толькі тады, калі ёй самой трэба было працаваць у класе або з аркестрам, але і калі рэпеціраваў рэжысёр. Яна не проста сядзела глядзела, як, скажам, працаваў Смоліч, а там, дзе лічыла патрэбным, абавязкова далучалася. Прасіла перарабіць тую ці іншую мізансцэну, даказваючы, што гэтак будзе лепей для спектакля. У мяне тая ж думка: Каламійцава магла б значна больш весці спектакляў і цяпер.

І яшчэ адно, я як жанчына не магу не адзначыць у Таццяне Міхайлаўне. Гэта яе дзівосная здольнасць быць заўсёды ў добрай форме. Яна ўсе гады, колькі яе памятаю, прыходзіла і прыходзіць у тэатр зграбная, адухоўленая, споўненая нейкай незвычайнай энергіі. Я ўпэўненая: што б там ні здарылася: паводка, землетрасенне, пажар,—Таццяна Міхайлаўна ніколі не здрадзіць сабе.

**Вёў гутарку**
**А. ДЫБЧА.**

---

бы, якая яшчэ ў 20-я гады жывіла, ды і цяпер павінна была б жывіць іхняе мастацтва, яны адлучаныя. І нават «новая фальклорная хваля», якая абудзіла цікавасць да беларускага інструментальнага фальклору ў асяроддзі аматараў, абмінула прафесійную адукацыю народнікаў-інструменталістаў.

Няўжо і цяпер, калі ідзе перабудова ва ўсіх галінах сацыяльнай і культурнай сфер, калі навучальным установам дадзена самастойнасць у напаўненні зместу вучэбных планаў і праграм, няўжо і цяпер мы не пашчыруем, каб змяніць наяўны парадак, які даўно ўжо стаў непрыстойным! Няўжо і надалей мы будзем адводзіць вочы ад таго, што нашы выпускнікі-народнікі, скажам так, выдатна выконваюць рускай, нямецкай, італьянскай, французскай і яшчэ бог ведае якімі музычнымі мовамі, але цураюцца (хоць, магчыма, і не па сваёй волі) роднай беларускай.

Але ж ёсць у нас у рэспубліцы магчымасці для таго, каб паправіць сітуацыю. Агромністая колькасць фаназапісаў беларускага інструментальнага фальклору захоўваецца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР, ёсць такія запісы ў фондах Дзяржтэлерадыё БССР, у лабараторыях Мінскага інстытута культуры. Ужо выйшлі ў свет грампласцінкі з такімі запісамі, надрукаваны першыя зборнікі расшыфровак беларускіх інструментальных найгрышаў. Знойдуцца, я ўпэўнены, энтузіясты — выканаўцы, педагогі, метадысты, музыказнаўцы, студэнты, проста аматары, якія прадоўжаць распачатую ў рэспубліцы працу па зборы і расшыфроўцы запісаў, аналізе і абагульненні ўжо назапашанага матэрыялу, стварэнні неабходных падручнікаў. Ёсць у нас і адзіны ў рэспубліцы спецыяліст па беларускім інструментальным фальклоры — кандыдат мастацтвазнаўства, старшы навуковы супрацоўнік ІМЭФ АН БССР, аўтар некалькіх манаграфій І. Назіна, якая магла б каардынаваць і ўзначальваць гэтую працу. Спадзяюся, далучацца да справы і Міністэрства культуры БССР, і выдавецтвы.

Не будзем жа марнаваць час, ён хуткаплынны і незваротны, давайце разам возьмемся за справу.

**Анатоль АСТАХАЎ,**
**загадчык музычнай рэдакцыі выдавецтва «Беларусь».**

---

## *З паэтычнай пошты*

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

### Свята

Убачу ў гарадскім двары
Жалейкі, скрыпкі і цымбалы,
Нібы таемныя сігналы
Спрадвечнай даўняе пары.

Усёй душой адчую зык,
Які жыве ў забытай песні.
А вочы шчырыя музык
Нібыта з фрэскаў уваскрэслі.

Нібыта фарбы нехта сцёр,
А далей — чысціня такая!..
Зноў нехта скрывіцца: фальклор,
А нехта ж слёзы выцірае.

### Мадонна-1986

Цішыня. Ад чырвоных гардзін
Так спакойна і вусцішна ў хаце.
І шчаслівa ўсміхаецца маці,
І баіцца дзіцё пабудзіць.

Праз акно рыжы бачыцца лес,
Рыбу выкінуць хвалі на бераг.
І глядзіць чорнай пашчай АЭС
Праз пагаслыя свечкі аеру.

### Палата

Калі высахнуць вочы ў журбе,
І самота ў душы скамянее,
Я аднойчы прыйду да цябе
У апошняй і кволай надзеі.

Там ў жоўтае люстра вады
Зазірну з хваляваннем упартым
І адчую сябе маладым,
І на нешта істотнае вартым.

І душы стане досыць святла
Ад вячыстае цэркаўкі белай...
Толькі б ты, мая рэчка, была,
Не засохла і не абмялела!..

### Павук

Арол загіне ад нязносных мук,
Заб'ецца у агоніі пантэра...
Усіх адзін перажыве павук,
Такі маленькі, непрыкметны, шэры.

Ён убаку ад бураў і завей.
Сам для сябе крыпае штосьці употай.
Яму хапае на свой сціплы век
Спакойнай жыткі, харчу і цянётаў.

г. Наваполацк.

---

*Перабудова і мы: урокі, трывогі, спадзяванні*

# АДМІНІСТРАЦЫЙНАЯ АБРОЦЬ

ПЫТАННЯМ авангарднай ролі камуністаў, іх палітычнай спеласці і актыўнасці, іх уплываў на людзей сёння надаецца вялікая ўвага. Падумаць і паразважаць сапраўды ёсць над чым. Чалавек настолькі складаная істота, што яго практычна можна павярнуць куды заўгодна — і к дабру, і к злу; мы ведаем гэта і ў прыватных выпадках, і ў гістарычных маштабах. Вось чаму найбольш актуальнай з'яўляецца зараз праблема, вяртання чалавеку яго чалавечага вобліку — і немалая роль у тым належыць камуністам.

Усё, здаецца, зразумела і ясна, але жыццё і тут уносіць свае карэктывы. На кожным кроку ўзнікаюць такія нечаканыя сітуацыі, што зарыентавацца бывае не вельмі проста. Палітычная і сацыяльная культура яшчэ надзвычай далёкая ад ідэалу на недасягальнай вышыні. На самыя наіўныя пытанні падчас няпроста знайсці адказ. Чаму, напрыклад, людзі такія раўнадушныя да сваёй эрудыцыі, інтэлекту, маралі? Куды падзеліся чалавечае ўзаемаразуменне, пачуццё абавязку і адказнасці, клопат і ўвага, сумленнасць і справядлівасць? Няўжо гэтыя, крайне неабходныя людзям гуманныя паняцці, настолькі выхалашчаны і працягваюць выхалашчвацца, што мы не можам апамятацца, асэнсаваць іх страту?

Адбываецца штосьці, як у тым легендарным указе: «казніць нельга памілаваць», дзе галоўную ролю іграе коска. Горш за ўсё, што і разлічваць няма на каго. Фартуна ў любы момант можа павярнуцца да цябе бокам, а то і спіной. Асабліва няўстойлівы лёс у людзей, якія больш-менш вольна арыентуюцца ў абстаноўцы і не ўпісваюцца ў «каманду», парушаючы апорны прынцып адміністрацыйнай сістэмы «не высоўвацца!» Сумна вядомы афарызм застою — «инициатива наказуема» — не на пустым месцы ўзнік, а народжаны вопытам мас. Ён увайшоў у плоць і кроў большасці. Надзейная адміністрацыйная аброць усё яшчэ ўдасканальваецца, з цяжкасцю ўспрымаецца думка пра тое, што ў любых спрэчках арбітрам можа быць этыка, бо не завялося такога гена ў адміністрацыйна-бюракратычнай іерархіі.

У мяне немалы партыйны стаж — каля 40 гадоў. І калі б спытаў у мяне хто-небудзь з маладых людзей, як трэба сябе паводзіць у той ці іншай сітуацыі, то хутчэй за ўсё не па-статутнаму, а зыходзячы з асабістых уражанняў, паклаўшы руку на сэрца, я параіў бы ім быць асцярожнымі і памяркоўнымі, жыць па прынцыпу «мая хата з краю». Бо так жыць прасцей, спакойней і нават аўтарытэтней. Такіх людзей менш прыцясняюць, іх паважаюць і нават цэняць, адносяцца да іх па-прыяцельску, дружалюбна. Гэта ў асноўным «добрыя хлопцы», «свае людзі». Яны добра ўладкоўваюцца, ладзяць з калектывам, умела ўзаемадзейнічаюць з каманднымі метадамі кіраўніцтва. Хоць толку ад іх няшмат, але кіраўнікам яны імпануюць: ні ўва што не ўмешваюцца, не ўнікаюць, заўжды падтрымліваюць адзін аднаго. Такія людзі «пасуцца» каля свайго начальніка, прабачце, як бараны, карыстаючыся апекаваннем і дабротамі. Жывуць яны не самастойнай ідэяй, а навязанай, у палоне чыноўніцка-бюракратычнай улады. Не здольныя перамагчы сваю нясмеласць, яны слепа, не разважаючы падначальваюцца любой «камандзе», дазваляюць сабой маніпуляваць. У начальніка пры гэтым развіваецца манія «вождизма», выпрацоўваецца бяздзейнасць і безадказнасць, што вядзе, здараецца, да распяразанасці, нахабства, службовага самадурства. Кожная канфліктная сітуацыя надзейна блакіруецца кругавой парукай усёй «каралеўскай раці». Той жа, хто зробіць спробу самасцвердзіцца і праявіць непаслушэнства ўладзе — па сутнасці неабмежаванай — свайго камандзіра, таго чакаюць усе кругі пекла. Яму не дадуць спакойна жыць і працаваць. Падключыўшы «грамадскую думку», з дзелавога, талковага, творчага чалавека, які душой хварэе за агульную справу, зробяць адшчапенца, прадставяць нікчэмным, бяздарным. Яго будуць круціць у амаральных жорнах, пакуль не ператруць на труху, або проста пазбавяцца ад яго пад рознымі матывамі.

Хто ведае ці дажывём мы да таго часу, калі стане «сябрам» чалавек, які нераўнадушны да недахопаў, змагаецца за праўду, справядлівасць і сацыяльную роўнасць, абараняе інтарэсы грамадства — за што ён сёння лічыцца «ворагам нумар адзін». Але нас прывучылі да вульгарных ацэнак асобы: «калі ты не з намі, то — супраць нас». Незразумела, чаму людзей смелых і рашучых пабойваюцца, а то ненавідзяць, чаму на кіруючых пасадах дасюль трымаюць бяздараў.

Прававая і маральная абароненасць асобы — гэта болевыя кропкі нашага жыцця, хапае іх і ў нас, у Маладзечне. У СШ № 4, дзе я выкладаю вытворчую працу, педагогі звыкліся з недахопамі, не адчуваюць радасці ад сваёй работы, жывуць па-абывацельску. У калектыве такое становішча, што кожная прынцыповая заўвага выглядае наступам на амбразуру.

Аднойчы мяне, як вопытнага педагога, запрасілі ў «Настаўніцкую газету» на «круглы стол» па пытаннях вытворчай працы школьнікаў. Калі ў асвеце дзе што і змянілася, дык тут яшчэ і конь не валяўся. Няма матэрыяльнай базы, належнага абсталявання, непрыстасаваныя памяшканні, праца ручная, непрадукцыйная. Мне даводзілася бачыць, як у СШ № 3 дзеці на ўроку працы выраблялі папяровыя пакеты для харчовых прадуктаў. Клеілі, дзе прыйдзецца—нават на падлозе, у антысанітарных умовах (у памяшканні—ні вады, ні мыла, ні ручніка). Паўсюдна ўвага толькі плану і валу — зусім як на вытворчасці. Парадокс: на ўроках працы адбіваецца цікавасць да працы. Гэта прыблізна я і гаварыў на «круглым стале». Калі ж матэрыялы надрукавалі, у рэдакцыю «Настаўніцкай газеты» пайшлі званкі з Маладзечанскага гарана: маўляў, з кім вы звязаліся, каго слухаеце... Ну, калі я ў нечым памыліўся, то абвергніце мяне, — але сумленна, праз газету, каб чытачы ведалі, хто мае рацыю, а хто не. Аднак работнікі народнай асветы змагаюцца не з недахопамі ў сваёй галіне, а з тымі, хто асмеліўся вынесці смецце з хаты.

Пасля крытычнага выступлення ўвага да маёй асобы рэзка вырасла. Загадчык Маладзечанскага гарана Бурдыка А. М. і інспектар па працы Відрук В. А. адразу ж арганізавалі інспектарскую праверку і пачалі вышукваць у мяне недахопы. Так для мяне пачалася пара «блукання па пакутах». Звяртаюся, напрыклад, да былога міністра асветы БССР Сухнат Л. К. з просьбай разабрацца ў сітуацыі і адразу прашу: «Не накіроўвайце, калі ласка, маё пісьмо па інстанцыях...». А мне ў адказ: «Ваша пісьмо накіравана ў Мінскі аблана...»

Даводзілася мне гаварыць у друку і аб тым, што празмерна раздуты штаты ў Маладзечанскім гарана: на 12 агульнаадукацыйных школ і некалькі дашкольных устаноў — каля паўсотні чалавек апарату. У загадчыка аддзела—аж два намеснікі, дзве сакратар-машыністкі, некалькі інспектараў, метадыстаў, інжынераў і г. д. Большая частка будынка 4-й школы занята кабінетнымі чыноўнікамі. Між тым, у школе ад цеснаты пакутуюць дзеці, асабліва шасцігодкі, пазбаўленыя нармальных умоў для вучобы, гульняў, сну.

Улічваючы аб'ектыўныя факты і давяраючы прэсе, я разлічваў на шчыры дыялог зацікаўленых праблемамі народнай асветы людзей, на глыбокі аналіз недахопаў. Нічога гэтага не адбылося, ніводная жывая душа не адрэагавала на некампетэнтнасць, абыякавасць, безадказнасць. Якімі ж крытэрыямі кіруюцца асобы, якім даверана той ці іншы ўчастак работы? Чаму яны з такім алімпійскім спакоем пазіраюць на непарадкі вакол?

Яшчэ новы будынак нашай школы, да прыкладу, з-за безгаспадарчасці разбураецца: цячэ столь, ад сырасці псуюцца сцены. У спартыўнай зале дасюль не працуюць душавыя, групы падоўжанага дня зусім у жахлівых умовах. Кормяць блага (як, зрэшты, амаль ва ўсіх школах). Мала хто са школьнікаў мые рукі перад ядой. Бруд, смурод з недагледжаных туалетаў, вэрхал у гардэробах... Хіба гэта не поле дзейнасці для адміністрацыі, партыйнай і прафсаюзнай арганізацый школы, чыноўнікаў гарана, якія тут жа, у адным будынку, раскашуюць у сваіх кабінетах? Для аздобы сваіх рабочых месцаў, яны, дарэчы, запрашалі нават кааператараў, на грошы адпаведна не скупіліся. А ў настаўніцкім калектыве на крытыку зрэагавалі так: маўляў, адзін дурань піша, скардзіцца, а другія — едуць праверуюць.

Што ж, якая логіка, такая і мараль. Мяне як камуніста ўсё часцей хвалюе пытанне: які ж толк ад майго членства ў КПСС, калі, акрамя фінансавай падтрымкі партыі, я не здольны ні на што іншае? Няма ў мяне паўнамоцтваў для барацьбы за справядлівую справу, якой мы абавязаны служыць у меру сіл. Як жа я выглядаю ў вачах беспартыйных, калі мая барацьба за праўду не ўвянчалася поспехам? Як бы мы ні прыкрывалі свой сорам «фігавым лістком», мы ўсе на віду ў народа. Звычайны, а то і недалёкі чалавек, атрымаўшы чын, раптам ператвараецца ў «разумнага», «здольнага», «свядомага», ён захворвае на велічнасць і пачынае лунаць у аблоках. «Зямныя» справы ўжо яго не тычацца.

Нельга ж так далей жыць — быццам у віры, быццам у пустым, ледзяным, неабжытым доме. Нельга мірыцца з тым, што людзі, надзеленыя службовымі і грамадзянскімі паўнамоцтвамі, дзеляць калектыў на «сваіх» і «чужых», «угодных» і «няўгодных»...

Думаецца, прыйшоў час пазбавіцца ад дагматычных уяўленняў аб ролі «чалавечага фактара». Нам павінны быць важнымі развагі і над адмоўнымі ўрокамі жыцця, і над пазітыўным вопытам барацьбы з недахопамі. Апошні паказвае, што грамадства, нягледзячы на ідэалагічную разнароднасць, у стане падняцца над класавымі і групавымі інтарэсамі, аб'яднаць свае сілы і забяспечыць прагрэс ва ўсіх сваіх сферах.

**П. БУЗАЎ,**
**выдатнік асветы БССР.**
г. Маладзечна.

*Наш духоўны свет: вытокі і абсягі*

# СВЯЦІЦЕ, КУПАЛЬСКІЯ ЗОРЫ!

## або Не надта вясёлы роздум пасля чароўнага свята

«...Дайце кветку!
Дайце сонца!»
Я. КУПАЛА.

Адплыло удалеч дзявочымі вянкамі, адшугала полымем рытуальнага вогнішча Купалле. Аднесла рачная плынь лёгкія плыты з мігатлівымі свечкамі, адкалыхала цёплая хваля нашы летуценні. Ніхто не напаткаў чароўную кветку-папараць, не пачуў таемнай мовы зёлак і траў, але мы знайшлі часцінку сябе саміх, яшчэ не вырачаных нацыянальных святыняў, яшчэ добрых і спагадлівых да прыроды, якімі былі спрадвечна продкі. Усе мы вяртаемся да занядбанай нівы духоўнай спадчыны.

Пакуль галёкала над горадам старажытнае паўзабытае свята, думалася: напішу ўрачысты рэпартаж пра першы ўсплеск духоўнага разняволення. Бо пераважная большасць купалуючых не канцэрта жадалі, не спажыўцамі прыйшлі да Камсамольскага возера, а Нашчадкамі звацца захацелі, Беларусамі сябе ўбачылі.

Ды не жыццярадаснага рэпартажу патрабуе перабудовачны час. Яшчэ не мінуў ледніковы перыяд у нашай культуры, яшчэ зацята наступаюць халодныя айсбергі, замарожваючы парасткі духоўнага ўваскрэшання.

Вось дзьмухнуў свежы ветрык: паўгорада, здавалася, сабрала сёлетняе свята,— і Мінск не спалілі, парк не спляжылі. Нічога не адбылося, каб засведчыць перасцярогі мясцовых улад. Але хочацца пасля свята паразважаць вось пра што: ці шмат змянілася ў мысленні людзей, адказных за культуру? Ці стала Купалле духоўнай патрэбай тых, хто па сацыяльнай ролі сваёй выступае ад імя народа? Такія балючыя пытанні ўзняла, вымыла гарбатая купальская хваля, такія недарэчнасці «выплылі» на паверхню— і сёння, прывучаная да розных чыноўных парадоксаў, дзіву даюся.

**Летась чутна была ў Мінску купальская песня. Але спявалі яе нефармалы-энтузіясты з «Талакі» ў закутку Ленінскага раёна — за Палацам культуры камвольнага камбіната, на мокрай купістай лугавіне. Мала хто з мінчукоў ведаў пра тое дазволенае свята: рэклама праз сродкі інфармацыі прыпынялася, маўляў, каб у шумным людскім зборы не адбыліся нечаканыя эксцэсы. Можа, яно і справядліва ў той складанай сітуацыі, калі мастацкай сілы няма, пляцоўка для свята непрыдатная і вогнішча — адзінае, не вельмі эстэтычнае: разламаныя драўляныя скрынкі... Аднак хто гэткія абставіны стварыў? Чаму нашы непісьменныя прадзеды ўмелі па завядзёнцы без папяровай валакіты і святы ладзіць, і парадак ахоўваць, і наваколле ад згубы шанаваць?**

**Былы першы намеснік старшыні праўлення Беларускага фонду культуры, які летась і займаўся ўкараненнем старадаўняга абраду, паўгода сцвярджаў грамадскай камісіі па фальклору, што ўсё ўзгоднена і дамоўлена, а за пару дзён да свята горада намеснік старшыні Мінскага гарвыканкома П. Кішкурна здзіўлена паціскаў плячыма: «Якое Купалле? Адкуль *узялося*? Ды *яшчэ і вогнішча трэба!* Першы раз чую. Агонь у горадзе—рызыкоўна...» Давялося разблытваць вузел непаразуменняў сакратару гаркома партыі П. Краўчанку. І ўрэшце няўклюдна, гвалтоўна раздаючы заданні прадпрыемствам, выканком Ленінскага раёна разам з грамадскасцю адужаў маленькае Купалле.**

**Тады ў фалькларыстаў з'явілася надзея: на год наступны зладзім Купалле не горшае, як у суседзяў-латышоў, якія абвясцілі дзень летняга сонцастаяння («Ліга») нацыянальным святам і рашэннем Савецкай улады зрабілі яго выхадным днём. На гэткія крутыя павароты мы не разлічвалі, але на разуменне *гарадскога кіраўніцтва* спадзяваліся. Улагоджаныя цвёрдай клятвай гарвыканкома ствараць у горадзе спрыяльныя ўмовы для будучага Купалля і наогул для прапаганды народных традыцый, мы сталі думаць, як далучыць сучасніка да вытокаў, як навучыць земляко адчуваць сябе на крэўнай зямлі не пакінутымі сіротамі. Прааналізавалі на пасяджэннях краязнаўчай, моўнай, фальклорнай камісій Фонду культуры БССР штогадовае свята горада і прыйшлі да цвёрдага перакання: нацыянальна-адметным гэтае прадстаўленне не назавеш, гаспадыняй тут з'яўлялася сцэнічна - экзатычнае відовішча, а не народная культура. Прапанавалі ад імя грамадскай арганізацыі — рэспубліканскага і гарадскога фонду культуры — правесці ў Мінску з 6-га на 7-е ліпеня Купалле пры садзеянні гарадскіх фальклорных гуртоў. Прасілі мы ў тых лістах і пераглядзець сцэнарны план і рэжысуру свята горада.**

**Пэўна, і дагэтуль замураваны ў бюракратычных шуфлядах турботныя думкі руплівых дзеячаў культуры і самаахвярнай нефармальнай моладзі: адказу мы не дачакаліся. Толькі ўпраўленне культуры Мінгарвыканкома паведаміла: рыхтаваць Купалле можна супольна з Ленінскім раёнам на тых самых задворках Палаца культуры камвольнага камбіната, таму што «усе раёны заняты арганізацыяй свята горада, а Ленінскаму даручана Купалле».**

Леташнія развагі намесніка старшыні гарвыканкома П. Кішкурны пра агульнагарадское Купалле зніклі ў нябыт.

Доўга вырашалі-меркавалі ў выканкоме, пакуль рызыкнулі перанесці месца дыслакацыі Купалля на Камсамольскае возера. Што пляжны пляц не зусім адпавядае святочнай дзеі, стала бачна адразу. Паліць траву, згадзіцеся, не вельмі гуманна. А прыстасоўваць пляцоўку да раскладання вогнішча ніхто не спяшаўся.

Сёлетняе свята гучна найменавалі агульнагарадскім. Гарадское аддзяленне БФК выдала сякія-такія афішы. Бо эскіз мастацкай рэкламы ніводная паліграфічная база не прыняла: у іх свае тэрміны выканання. А культура ж—сфера нечаканасцей: сёння дазваляюць, заўтра забараняюць. І так да апошняга дня — суцэльная мітусня. Найбольш валтузяць аўтара сцэнарыя ці рэжысёра. Каго толькі мы ні абавязаны «ознакомить с материалом»! Дальбог, каб тыя партыйныя ды савецкія кіраўнікі ўважлівей чыталі сцэнарныя распрацоўкі, то напамяць ведалі б фальклор беларусаў! А пакуль штогод адно і тое ж тлумачыш... Бяздарныя шэрыя святы множацца, а народнае мастацтва перамрасаецца ўсімі, хто лічыць сябе паўнамоцным. Ну ці ж не парадокс: кантрольныя інстанцыі не маюць у сваім штаце драматургаў, мовазнаўцаў, этнографаў ці фалькларыстаў, але іх работнікі «пільным і кампетэнтным вокам» ацэньваюць дасканаласць навукова - мастацкага твора — сцэнарыя. Упэўнена: трапіў бы сцэнарый свята горада да сапраўдных прафесіяналаў, улюбёных у сваю справу, і мелі б мы не набор канцэртных нумароў, а таленавітае святочнае паданне пра родны край. Але «Мінск-89» пашырыў прасторавыя і часавыя межы, а векавечныя традыцыі беларускага народа як вызіралі гаротнай падчарыцай з агульнага гаманкога кірмашу свята, так і цяпер дзе-нідзе нагадваюць пра сваё існаванне.

Зірнём на два гарадскія святы, якія амаль супадаюць па часе правядзення і надта ж просяцца да параўнання. Выдаткі на арганізацыю свята горада складаюць (прытрымайце дыханне!) сотні тысяч рублёў. На жаль, дакладнай лічбы мне ніхто не змог пакуль назваць.

Яшчэ трэба ўлічыць, што свята горада збірае ўсе мастацкія сілы рэспублікі. Запрашаюцца шматлікія вясковыя калектывы, ансамблі і хоры з прадпрыемстваў, а ў калгасах... касавіца. А транспарт у нас не бясплатны, гасцініцы, харчаванне—таксама.

Народныя святы не праглынаюць сотні тысяч рублёў, сёлетнія «купальскія» шэсць тысяч пры дзяржаўным стаўленні да адраджэння нацыянальных традыцый — драбяза. Як бачым, сумы, затрачаныя на два розныя гарадскія святы, на вагі пакуль не пакладзеш. Ды і ў адносінах да гэтых падзей падабенства мала. Напярэдадні свята горада Мінск ператвараецца ў будаўнічую пляцоўку: паўсюль манціруюць розныя канструкцыі, замацоўваюць запрашальныя лозунгі, лялькі, стужкі. Прычым, робяць гэта шматлікія брыгады, маючыя адпаведнае абсталяванне, машыны, краны.

Затое не хапіла рабочых рук для дзядоўскага свята нацыянальнага адраджэння — Купалля. Ленінскі райвыканкам паклапаціўся: прыслалі трох салдат з афіцэрам. Увечары 5 ліпеня яны прывезлі за рэйсаў сем (не меней!) дэталі сцэны са стадыёна «Дынама»: машыны іхнія маленькія, да такой працы непрыстасаваныя; зманціравалі сцэну. Назаўтра засталося работы непачаты край: не было каму цяжкія слупы ўкопваць, купальскія колы замацоўваць, арэлі ўладкоўваць. Ды і пляжнае месца неяк трэба было аздобіць. Шасток для цэнтральнага вогнішча, на якім кола трэба падняць, недзе згубіўся, не давезлі, зялёных галінак для аздаблення сцэны таксама няма. Гэта можна было вырашыць загадзя, калі б горад не палічыў гэтае свята чужым. Калі б начальнік упраўлення культуры Мінгарвыканкома А. Літвіновіч не самаўхіліўся ад спраў. Калі б гарвыканком не перадаручыў усе абавязкі выканкому Ленінскага раёна: свята — агульнагарадское. Тады б не гучала з вуснаў намесніка старшыні Ленінскага выканкома Г. Мазуркевіч сакраментальная фраза. «Это сделает «Талака». Витушка обещал». Прабачце, якая «Талака»? Яна да гэтага часу нідзе не зарэгістравана і пазбаўлена памяшкання для пасяджэнняў, моладзь вымушана бадзяцца па скверах, каб вырашаць свае арганізацыйныя пытанні. «Талака» — арганізацыя, якая не мае аўтамабіляў і сваёй лесасекі. Рабочай брыгады таксама ў штаце «Талакі» (ды і Фонду культуры) днём з агнём не знойдзеш. І самае галоўнае: ці правамоцная «Талака» — арганізацыя, не прызнаная дагэтуль уладамі,—несці адказнасць за агульнагарадское мерапрыемства? Афіцыйнымі арганізатарамі Купалля былі зацверджаны Фонд культуры БССР, Упраўленне культуры мінгарвыканкома, Ленінскі райвыканком г. Мінска. І абавязкі напачатку былі размеркаваны: Фонд забяспечвае творчую частку, упраўленне — вырашае арганізацыйныя пытанні, а Ленінскі выканком бярэ на сябе гаспадарчыя праблемы. Аднак давялося за дзве гадзіны да свята вясковым спевакам, што прыехалі ў госці, прыбіраць скошаную траву і віць з яе перавяслы, каб надаць купальскі выгляд берагу возера. Тут ужо шпарка працавалі і зноў паклікаваныя салдаты, і ўрачыста апранутая Г. Мазуркевіч. Упраўленне культуры гарвыканкома ў гэты час турбавала думка, «каб нічога такога на свяце не *было*». Што *мелася на ўвазе*— раскрыецца потым. А пакуль я дзівілася аптымізму А. Літвіновіча. На маю скаргу: «Няма каму выконваць тэхнічныя работы», ён паважна адказаў: «А какие тут могут быть работы... на Купалье? Костры зажёг—*да и всё*». *Не паспела* нагадаць Аляксандру Аляксандравічу: мы не ў маленечкай вёсцы, дзе кожны ведае сваю адвечную ролю, а ў шматлюдным горадзе, і большасць гараджан слыхам не чулі пра Купалле. Іх трэба вучыць старадаўняму абраду, і вогнішча—яшчэ не паратунак.

Застаецца прыйсці да высновы, што наступнае Купалле трэба ладзіць, як мітынг: заяву падалі ды і рыхтуемся, самі за ўсё адказваем. Дальбог, ладу будзе болей, а падазронасці меней. Толькі вось што будуць рабіць дзяржаўныя ўстановы? Як і заўжды, кантраляваць?

Пэўна, раскоша «ахоўваць» усіх і кожнага ад небяспекі і спараджае штогод за дзень да якой падзеі міфы. Перад Дзядамі ўспомнілі раптам, што памінальнай традыцыі ў горадзе няма, наважыліся арганізаваць святкаванне камсамольскага юбілею. Праўда, урачыстасці было мала. Цяпер жа, перад Купаллем, парашылі ратаваць мінчукоў ад зладзеяў. Не ведаю, адкуль выраслі ногі ў па*галоскі, але па тэлефонах* яе перадавалі спраўна: напярэдадні Купалля на Камсамольскім возеры абакралі латкі-кіёскі, могуць прыйсці зладзеі і на свята. Не паленавалася я, з'ездзіла, спытала ў дзяўчыны, што гандлявала напіткамі, ці *праўда, што гэткая бяда зда*рылася. «Не, — кажа, — мы ўсё нанач звозім адсюль. Іншых кіёскаў паблізу ніколі не было». Так гэта ці не, а тэлефонная эпапея складалася. Здаецца, дзесяткі разоў згаджаліся мы з руплівымі доказамі Г. Мазуркевіч і намеснікам начальніка ўпраўлення культуры Мінгарвыканкома Ч. Муліцы, што на Купалле не хадзілі з бела-чырвона-белымі сцягамі нашы продкі, і мы па традыцыі не пойдзем. А вось зноў жа Ч. Муліца ў адчаі. «Я веру, што нічога такога не будзе. Але ёсць думка абмежаваць свята да гадзіны. Усякае можа здарыцца. Ноч...»

Каб не было злачынства, у нас на тое ёсць міліцыя. Прадстаўнікі міліцыі напярэдадні аг*ледзелі пляцоўкі*, уважліва выслухалі нашы просьбы. Мы памяркоўна аб усім дамовіліся. Але зноў пачулі: «Людзі пасля поўначы не дабяруцца дамоў». У такім разе чаму не падоўжыць работу гарадскога транспарту?

Бліжэй да гадзіны ночы ў аўтобусе агучвання (дзе, дарэчы, працаваў чалавек, непадуладны ні рэжысёрскай групе, ні выканкому: колькі ні прасілі яго не ўлазіць у канву свята, той не слухаўся) сабраліся старшыня Ленінскага выканкома і яго намеснік, А. Літвіновіч і Ч. Муліца. Усе на праміла бог прасілі: «закрыць дзеянне на сцэне, напомніць людзям, што іх дзеці хочуць спаць». Хто быў на свяце, памятае: я нагадвала праз мікрафон, што дзецям ноччу трэба спаць. А недалёчка ад сцэны стаялі гуртом прадстаўнікі ўлады, мне мала знаёмыя: чакалі, пакуль я ўлагоджу народ і накірую да апошніх тралейбусаў. Гэтак было б зручна: і Купалле правялі, і апоўначы ўсе па хатах разышліся. Дзіўна толькі, ніхто не падумаў, што народ—не абстрактная маса, а жывыя разумныя людзі, здольныя аналізаваць і думаць, што Купалле— не чарговае мерапрыемства для птушачкі, а відавочны факт узрастання нацыянальнай свядомасці. Не, хлушу: пра свядомасць якраз успомнілі, толькі інакш гэта *было ахрышчана*.

— Это масса? Разве она сознательная? — нервавалася Г. Мазуркевіч, калі людзі сталі падпяваць барду-паэту С. Сакалову-Воюшу: «Я беларус. А вы навокал — хто вы?» Какой народ? Смеетесь. Они ничего не понимают. Вы просто привели их в такое состояние. Это массовый психоз. Так фашисты делали...(!).

І дарма было даводзіць перапалоханай жанчыне, што любая эпоха адраджэння пачыналася вось з такой прагнай цягі да песень — своеасаблівых гімнаў. Яна штурхала мяне да мікрафона і патрабавала: «Прекратите это, остановите. Почему он не одну песню поет, а много?»

У нас усё было «па-людску»: уся ўвага міліцыянераў была аддадзена сцэне. А між тым наўкол хадзілі п'яныя, стваралі канфліктныя сітуацыі, і міліцыі тады не было відаць. Нехта без дазволу падпаліў дровы, што былі назапашаны нанач, і зноў разбіраліся талакоўцы, а да мяне на сцэну прыбегла за*пыханая пасыльная* ад П. Кішкурны: «Он сказал, что закроет праздник, если не проследите за порядком. Там самовольно разжигают костры...»

Ці ёсць у нас установы культуры, якія нясуць адказнасць не за дакладнасць сімво*лікі (з гэтым разбяруцца вучо*ныя), а за стан нацыянальнай культуры? Мабыць, наспеў час некаторым сумленна глянуць на сваю работу: нефармалы ладзяць нацыянальныя святы, бо ўся багатая па справаздачах мастацкая самадзейнасць шануе шыкоўныя касцюмы, пашытыя прадпрыемствамі, ды патрабуе велічнай сцэны для выступлення. Думаю, прыйшла пара сказаць «дзякуй» нефармалам: цаліну ўздымаюць, ахвяруючы часам і сілай: «Талака» і швец, і шнец, і на дудзе ігрэц. Няма дзе збірацца на спеўкі «Талацэ», і адыходзяць ад яе маладыя няўрымслівыя людзі, поўныя жадання зберагчы спадчыну.

Пераканана, што Купалле ў нас прыжываецца, што яно будзе збіраць тысячы і тысячы *людзей*. Каб не было і надалей падобных крыўдных няўвязак, якія нараджаюцца як з недаверу да моладзі, так і з-за боязі адраджэння нацыянальных свят, нам трэба зразумець: пляж не месца для гарадскога свята, два-тры вогнішчы на паўтарамільённы горад — вельмі мала, а жаданне культурнікаў адмахнуцца ад Купалля і ладзіць фанфарнае свята горада — справа марная. Не ў іх сілах спыніць цягу народа да пазнання сваёй гісторыі і самога сябе.

**Антаніна ХАТЭНКА,**
**старшы эксперт па фальклору Беларускага фонду культуры.**

# Назвы бацькаўшчыны: ВЯРНУЦЬ СТРАЧАНАЕ

**(Працяг. Пачатак на стар. 3).**

перажылі страшэнныя здзекі і пакуты, вярнуліся з цяжкіх ваенных дарог, з асаблівым замілаваннем ставіліся да роднага куточка сваёй малой радзімы. Усё да дробязі, што ўцалела ад разбурэнняў і папялішчаў, было дарагім і любым кожнаму чалавеку. Датычыла гэта і назваў родных вёсак і гарадоў, бо кожная з іх упісала ў свой летапіс адметныя старонкі нядаўняга змагання з ворагам. Не было ніводнай нават маленечкай вёсачкі, якая б не паслала на фронт, у партызаны амаль усю здольную да ваеннай службы частку свайго мужчынскага насельніцтва. Не было ніводнага паселішча, з якога б не ішлі пісьмы на фронт і з фронту. Пасля вяртання дахаты былыя воіны яшчэ шмат гадоў памяталі тую радасць, якая апаноўвала іх у далёкім ад дома краі пры дакрананні да пакамечанага салдацкага канверта-трохкутніка з роднай назвай сваёй зямлі. І хоць рукамі самых блізкіх і дарагіх людзей на іх былі напісаны зусім не мілагучныя словы Аплеўніца, Блошнікі, Воўчая Яма, Гібайлавічы, Дзяругі, Жабаўка, Заграззе, Кабаны, Лапці... (а такія і падобныя да іх назвы сапраўды меліся тады на нашай карце), кожнае з іх успрымалася з асаблівай цеплынёй, не выклікала і кропелькі нейкай агіды, абразлівасці. Гэтыя назвы доўга заставаліся блізкімі, дарагімі тым, хто перажыў акупацыю, апынуўся ўдалечыні ад бацькоўскай хаты, са зброяй у руках прайшоў тысячы кіламетраў франтавых дарог. Улічваючы такія пачуцці да любай Бацькаўшчыны, ніхто з мясцовай адміністрацыі амаль два дзесяцігоддзі пасля вайны не адважваўся «пахадзіць» з чырвоным алоўкам каля народнай тапанімікі. Толькі адзін беларускі горад Прапойск пазбавіўся (і надзвычай па-асабліваму) сваёй былой назвы. Шмат зведала яна на сваім вяку, але ўсё ж да мая 1945 года заставалася сама сабой. Спачатку гэта паселішча мела назву Прупой, Прупошаск, Прапошаск і нарэшце Прапойск. Чаму поруч з велізарнымі клопатамі па адраджэнні разбуранай у час фашысцкай акупацыі гаспадаркі раптам узнікла патрэба мяняць назву Прапойска? Прычыну знайшлі, толькі ці была яна апраўданай?

**...У баях за Прапойск вызначылася адно з воінскіх падраздзяленняў, за што ў тыя часы было прынята прысвойваць ім найменаванні па назве вызваленага горада. У дадзеным выпадку азначала да нумара воінскай часці дадаць слова «Прапойская». Палічылі, што яно будзе абразай, ганьбай для воінаў-вызваліцеляў, бо назву горада выводзілі ад зняважлівага для ўсялякага культурнага чалавека рускага слова «пропойца». Я спецыяльна называю гэтае слова рускім, бо ў нашай мове яно адсутнічае. Ёсць «п'яніца», «п'янчуга», і, значыць, у народную, беларускую назву горада Прапойска нічога не закладзена брыдкага, непрыстойнага. Выдатны спецыяліст у галіне тапанімікі В. А. Жучкевіч у кнізе «Краткий топонимический словарь Белоруссии» (Мінск, 1974 г.) выводзіў паходжанне назвы гэтага горада ад ракі Проні. І з такой думкай можна пагадзіцца, паколькі на Беларусі сустракаецца шмат выпадкаў паходжання назвы горада ад ракі ці іншага геаграфічнага аб'екта. Калі ж ваеннае камандаванне не магло пайсці на наданне вайсковаму фарміраванню азначэння «Прапойское», дык можна было б у гэтых мэтах выкарыстаць больш мілагучную на яго погляд назву суседскіх да Прапойска населеных пунктаў. А то на практыцы атрымалася штосьці зусім недарэчнае: воінская часць вызваляе Прапойск, а прысвойваюць ёй назву «Слаўгарадская», якой на той час у Беларусі не існавала. Усё гэта было вельмі нечаканым для жыхароў Прапойска і выклікала з іх боку заканамерную нязгоду, бо яго назва мае вельмі глыбокія гістарычныя карані. Мінула так багата часу, а мне зусім нядаўна даводзілася чуць, як маладыя людзі на пытанне: «Адкуль вы, хлопцы, будзеце?» адказвалі без гумару, зусім сур'ёзна: «Мы з Прапойска», не бачачы ў гэтым слове нічога заганнага, зняважлівага. Калі б мінулая назва ва ўяўленні прыстойных людзей звязвалася са словам «п'янчуга», дык наўрад ці захоўвалася б яна ў іх памяці да такое пары.**

«Залатыя два дзесяцігоддзі» беларускай тапанімікі абрываюцца 1964 годам. Прадстаўнікі мясцовых улад парашылі, што прабіў час дзейнічаць. Як-ніяк, а народ усё ж пакрысе забываўся, якім гэта велізарным шчасцем для яго была захаваная і адбудаваная пасля вайны вёска. Дый адносіны да яе сацыяльна-эканамічнага, культурнага развіцця кульгалі на абедзве нагі. Найбольш адукаваная, самая перспектыўная часта сельскага насельніцтва — выпускнікі няпоўных і сярэдніх агульнаадукацыйных школ — гужом пацягнулася ў горад за атрыманнем спецыяльнай адукацыі ў тэхнікумах і ВНУ, для працаўладкавання на прадпрыемствах прамысловасці і транспарту, будоўлях, у сферы быту, дзе аплата працы была вышэйшая, чым у калгасах і саўгасах. Так што на месцы заставалася ўсё менш і менш высокасвядомых людзей, якія маглі б стаць на абарону назваў сваёй зямлі. Не трэба забываць, што пад гэты час сродкам масавай інфармацыі, розным ідэалагічным службам, агульнаадукацыйнай, сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе многае ўдалося зрабіць па размыванні нацыянальнай свядомасці беларускага народа, грунтоўна падрыхтаваць яго да зліцця культур і моў ды і саміх нацый. Вядома, у такім этнічна дэфармаваным стане ён ужо не мог правільна ўсведамляць значэнне створанай на працягу ўсёй гісторыі нацыянальнай тапанімікі, стаць яе абаронцам ад усялякіх замахаў з боку мясцовай адміністрацыі. І апошняя гэта вельмі добра разумела, таму так смела ўзялася руйнаваць тое, чаго сама не ў стане была належным чынам ацаніць з-за свайго вельмі нізкага культурнага ўзроўню, гістарычнага бяспамяцтва.

Цяжка ўявіць, адкуль было ўзяць тыя сродкі, але ў 1964 годзе ў нас з'явілася магчымасць «па просьбе працоўных» змяніць назвы больш як 300 населеных пунктаў!!! Мо не шкадавалі грошай, што рабілася гэта акцыя ў год дваццацігоддзя вызвалення беларускага народа ад нямецка-фашысцкай акупацыі? Магчыма, юбілей быў прычынай, што адразу ў жыхароў такой вялікай колькасці вёсак з'явілася жаданне развітацца з назвамі, якія прыйшлі ад старэйшых пакаленняў?

Практыка паказвае, што калі мяняецца назва нават аднаго паселішча, дык і то не заўсёды ўдаецца пазбегнуць памылак. Прыгадаем тут самыя свежыя прыклады з Рыбінскам, Іжэўскам, Набярэжнымі Чаўнамі, Чаромушкамі, якія нядаўна вярнулі людзям. Чаму ж тады апаратчыкі Беларусі адважыліся ў 1964 годзе на такую маштабную, беспрэцэдэнтную для іншых саюзных рэспублік замену народнай тапанімікі? Мо ў іх руках быў добра адладжаны компас, што даваў магчымасць не збочыць з правільнага курсу і ў самых заблытаных сітуацыях? Не, такі прыладак у іх адсутнічаў. У выніку некампетэнтнага падыходу за адзін год амаль дашчэнту было разбурана тапанімічнае палатно краю, што стагоддзямі, без спеху, удумліва ткалася нашымі разумнымі ад прыроды, хоць і не заўсёды пісьменнымі продкамі. Калі былая тапаніміка з'яўлялася ў поўным сэнсе слова гістарычнай памяццю беларускага народа, аб'ектыўна адлюстроўвала ўсю складанасць, адметнасць яго жыцця, дык усё тое новае, што напрыдумлялі нам перакройшчыкі карты, вызначалася ў пераважнай большасці пустатой і бязглуздзіцай. Калі мы пакінем усё, што «падаравалі» нам у 1964 годзе бяздумныя рэфарматары тапанімікі, дык апошняя праз 50—100 гадоў у стане будзе завесці ў зман нават самых таленавітых, масцітых гісторыкаў адносна таго, як жылося беларусам у 60-я гады XX стагоддзя.

Знаходзячыся пад моцным уплывам распрацаванай у час кіравання Хрушчова тэорыі аб непазбежнай і вельмі хуткай пабудове камунізму, прадстаўнікі мясцовых Саветаў праявілі асаблівую настырнасць у дачыненні да назваў, што не адпавядалі іх поглядам на шчаслівую і светлую будучыню. Відаць, пагадзіліся, што да яе неабавязкова ісці праз магутны ўздым прадукцыйных сіл, культурны росквіт народа, таму найбольш клапаціліся не пра ўнутраныя эканамічныя і духоўныя перадумовы новага ладу, а толькі пра знешнія з'явы, многія з якіх, як на грэх, былі павернуты да мінулага і, значыць, недапасоўваліся да заўтрашняга дня. Вось чаму так бязлітасна і чынілі расправу над найменнямі, накшталт Авечкі, Мучыжок, Неўмывакі, Паўшляхты, Ракаедаўшчына, Свінкі, Трыпуціха, Ушыўцы і іншыя.

Ну, а што ж узамен атрымаў так няшчадна абкрадзены народ? Нічога людскага. Нібы на здзек, бачачы, як ускладняецца сацыяльна-эканамічнае становішча беларускай вёскі, прадстаўнікі ўлады, яўна ўхіляючыся ад вырашэння канкрэтных гаспадарчых і культурных задач сельскай мясцовасці, навадняюць нашу зямлю самымі прыгожымі і гучнымі, эфектнымі і радаснымі найменнямі. А паколькі слоў-сінонімаў з такімі прыемнымі адценнямі не так ужо і шмат было ў галовах рэфарматараў, пагадзіліся на іх неадназовыя паўторы. На карце Беларусі застракацелі назвы Краснапольцы, Ягадная, Садовая, Дубкі, Раздольная, Грушаўка, Калінавая, Ураджайная, Вішнёўка, Ліпавая, Сонечная і падобныя да іх. «Бо бясклапотнае жыццё было ў беларусаў», — падумае хтосьці, чытаючы Указы Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР за 1964 год аб перайменаванні населеных пунктаў.

У той змрочны для беларускай нацыянальнай тапанімікі год не паскупіліся і на слоўцы-назвы, якія адлюстроўвалі штосьці важнае з рэвалюцыйных, працоўных і ратных падзей савецкага народа. Найбольшая перавага была аддадзена такім найменням, як Партызанская, Мірная, Савецкая, Перадавая, Светач, Дружба, Гвардзейская, Майская, Камунарка, Прагрэс і г. д.

Кіруючыся расхожай у тыя гады шкоднай, антынавуковай тэорыяй аб непазбежнасці зліцця ўжо ў бліжэйшай перспектыве нацый і моў, заўзятыя пераўтваральнікі навадлнілі нашу тапаніміку мноствам рускіх слоў, што самым істотным чынам паўплывала на яе нацыянальны каларыт. Тут, мабыць, пэўную ролю адыграла і кепскае валоданне беларускай мовай асобамі, што ўзяліся за перакройванне геаграфічнай карты. З найбольш нетыповых для нашай нацыянальнай тапанімікі назваў 1964 года нараджэння хацелася б прывесці (падаю спецыяльна на рускай мове, каб не ўносіць дысананс праз беларускае напісанне іх) наступныя: Зерновая, Ключегорская, Восход, Первомайская, Знаменская, Роща, Ковровая, Сиреневка, Красноармейское, Октябрьское, Черемушки.

Калі ў нашым жыцці адбываецца штосьці знамянальнае, мы, акрамя непасрэдных удзельнікаў гэтых падзей, зусім справядліва называем і тых, хто ўзначальваў тады нашу палітычную сістэму, стаяў на правым флангу культуры і навукі, бо без іх плённай працы нельга дамагчыся чагосьці адметнага ў любой сферы дзейнасці чалавека. Ну а як быць, калі трэба гаварыць пра адмоўнае, хібы на гістарычным шляху нацыі? Вядома ж, няма падстаў забываць і пра дзяржаўных, культурных дзеячаў, якія абавязаны падзяляць поспех і няўдачу, радасць і гора разам са сваім народам.

Адносна прафесійнай падрыхтаванасці, нацыянальнай прыналежнасці тагачасных палітычных лідэраў, кіраўнікоў навукі і культуры нельга выказаць асаблівых прэтэнзій. Ці ж можна паставіць пад сумненне багацце вопыту партыйнай і дзяржаўнай дзейнасці першага сакратара ЦК КПБ К. Т. Мазурава, Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР В. І. Казлова, Старшыні Савета Міністраў БССР Ц. Я. Кісялёва? Усе яны нарадзіліся ў беларускіх вёсках і, напэўна, добра ведалі, што сельскім жыхарам звыклая, перададзеная ад продкаў назва ў дзесяткі разоў даражэйшая за любое штучна прыдуманае найменне. Вясковец і раней і цяпер больш за ўсё заклапочаны сацыяльна-бытавым і культурным становішчам сваёй малой радзімы і ніколі не праявіць ініцыятывы скасаваць яе спрадвечнае імя, хоць сэнс яго мо і вельмі далёка адстае ад мерак сучаснага жыцця. Цяжка сказаць, чаму нашы партыйныя і дзяржаўныя дзеячы не палічыліся тады з прыхільнасцю вяскоўцаў да родных каранёў, учыніўшы такую недаравальную расправу над гістарычнай і духоўнай спадчынай беларускага народа. І дзіўна, што страта нацыянальнай тапанімікі адбывалася і ў тых мясцінах, адкуль паходзілі самі К. Т. Мазураў, В. І. Казлоў, Ц. Я. Кісялёў. Звычайна, чалавек з павагай ставіцца не толькі да сваёй роднай вёскі, але і да ўсіх тых населеных пунктаў, што ляжаць паблізу яе. А тут жа гэты фактар нейкім чынам не спрацаваў ні ў 1964 годзе, ні пазней. Звярну ўвагу, што ў некаторых з указаных палітычных дзеячаў было даволі часу, каб адумацца ды паправіць становішча, каб хоць трохі змыць свае цяжкія грахі перад нашчадкамі.

Сур'ёзныя прэтэнзіі прад'явіць гісторыя элітнай частцы навуковай і творчай інтэлігенцыі, якая, атрымоўваючы з кішэні народа найбольшыя за іншыя катэгорыі людзей сродкі на сваё ўтрыманне, у адказны момант не выступіла ў абарону нацыянальных каштоўнасцей. Мо не так балюча і трагічна ўспрымаўся б вандалізм 1964 года на ніве беларускай тапанімікі, калі б наша навука і культура знаходзіліся ў зародкавым стане, калі б там адсутнічалі людзі заслужаныя і прызнаныя, са званнямі акадэмікаў і член-карэспандэнтаў, са ступенямі дактароў навук. Такі рубеж ужо даўно мінула Беларусь. На гэты час у нас меліся даволі аўтарытэтныя навуковыя калектывы — маю на ўвазе акадэмічныя інстытуты мовазнаўства і гісторыі, прамы абавязак якіх пры ўсіх акалічнасцях адстойваць недатыкальнасць народных назваў, сачыць за парадкам у тапанімічнай гаспадарцы, выхоўваць у новых пакаленняў павагу да яе. На шчасце, сёння ва ўстановах навукі і культуры яшчэ працуюць асобы, якія адпаведна свайму высокаму сацыяльнаму, прафесійнаму статусу не мелі права заставацца ў 1964 годзе раўнадушнымі да вымывання нацыянальнага элементу з беларускай тапанімікі. Пішу «на шчасце» таму, што ў час нашага новага, гуманістычнага стаўлення да гістарычнай памяці ёсць надзея, што хтосьці з іх усё ж пакланіцца, увойдзе ў дзелавыя кантакты з адпаведнымі органамі ўлады з тым, каб прыступіць да адраджэння нацыянальнай тапанімікі і гэтым самым змые хоць крыху свой грэх за колішнюю абыякавасць і раўнадушша.

**Зайздросны алімпійскі спакой нашых вучоных-грамадазнаўцаў, пісьменнікаў, іншых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі, які быў праяўлены імі ў год масавага генацыду беларускай тапанімікі, развязаў рукі бюракратам, выклікаў цвёрдую перакананасць у справядлівасці іх дзеянняў. Таму шкодны, супярэчлівы законам гісторыі працэс перайменавання назваў населеных пунктаў працягваўся, і калі не ў такіх маштабах, як у 1964 годзе, дык толькі таму, што ў рэспубліцы з цягам часу вельмі добра прыжылося паняцце *«неперспектыўныя вёскі»*. У іх разрад заносілася абсалютная большасць сельскіх населеных пунктаў. Пазіраючы на апошнія, як на нейкую часовую з'яву, прызналі зусім немэтазгодным мяняць іх карэнныя назвы, бо яны самі па сабе адыдуць у нябыт са знікненнем самога паселішча. І так, на жаль, яно даволі часта здаралася ў нашым жыцці. Колькі ўжо ў нас на сёння мёртвых вёсак, найменні якіх можна вызначыць не па дарожных указальніках, а па дакументах сельскіх Саветаў?!**

Зусім іншым падыходам кіравалася мясцовая адміністрацыя ў адносінах да перспектыўных вёсак, якім шчаслівы лёс прадвызначыў прамы, шырокі шлях у светлае будучае — камунізм. Прынцып тут быў такі: даваць дазвол у гэтую прагрэсіўную сацыяльна-эканамічную фармацыю толькі вёскам з узнёслымі, мілагучнымі, светлымі, патрыятычнымі назвамі, таму тапонімы, ад якіх, на думку функцыянераў, пахла анахранізмам, патрэбна было вынішчаць самым рашучым чынам. І яны вынішчаліся з зайздроснай стараннасцю, што зноў-такі не гарантавала ад сур'ёзных памылак. Па традыцыі мінулых гадоў менш за ўсё ўлічвалася лексіка беларускай мовы. І гэта зразумела. Раз грамадства нацэлена на хутчэйшае, маштабнае зліццё моў, значыць, гэтаму «заканамернаму і прагрэсіўнаму працэсу» трэба ўся-

*Кіно*

# НЕАБХОДНАЕ ЗВЯНО

**«В парках старинных...» («Паркі праз стагоддзі»). Студыя «Летапіс» к/с «Беларусьфільм». Па заказе Беларускага таварыства аховы прыроды. Аўтар сцэнарыя—Г. Колас, рэжысёр—А. Колас. Аператар—С. Бондараў. 1989 г.**

«Экалогія культуры». Гэтыя словы паступова становяцца звыклымі, ператвараюцца ў моўны штамп. На самай справе ў іх закладзены зусім рэальны сэнс. Апошнім часам мы ўсё больш пачынаем усведамляць, што культура не можа існаваць па-за сувязямі чалавека з прыродай. Калі тое, што мы называем цывілізацыяй, парушае экалагічныя сувязі ў прыродзе, разбурае экасферу, разбураецца і культура.

У гэтым сэнсе адна з унікальных з'яў чалавечай цывілізацыі—сады і паркі. Яны гэтулькі ж тварэнне прыроды, наколькі чалавечага генія і майстэрства—ягоных інжынерных, архітэктурна-мастацкіх і натуралісцкіх здольнасцей. Каштоўнасць і значэнне садова-паркавага мастацтва як быццам для ўсіх відавочная. Сапраўды, цяжка знайсці род мастацтва, які б па сваёй функцыі быў настолькі блізкі і даступны для людзей.

«Паркі... гэта ж тое... звяно, якое звязвала гісторыю, культуру, жывапіс, літаратуру»,—гаворыць адзін з удзельнікаў фільма «В парках старинных...» І як жа лёгка можна разарваць сувязь часоў.

На экране—магутныя, выкарчаваныя з каранямі дрэвы. Грузавік з бярвеннямі—тым, у што ператварыліся яшчэ нядаўна жывыя расліны. І голас за кадрам: «На дровы... да... дэрэво такэ товстэ було... у дворы Касцюшка садыв, Тадэуш... то гісторыя».

У гэтым фільме мы пачуем шмат галасоў. Будуць гаварыць вучоныя, спецыялісты, прадстаўнікі ўлад, міністэрскія работнікі. Будуць гаварыць зацікаўлена, з веданнем справы, нават страсна. Але больш за ўсё запомняцца, напэўна, старыя, стомленыя твары сялян, іх нягучныя, няхітрыя словы «У том парке, то вы знаете, аллейки были. Так мой отец рассказывал... здесь вообще красиво было... Сейчас-то... хозяина-то нема теперь».

А вось яшчэ маналог, запісаны ў іншым месцы.

«А потом, когда Красная Армия пришла, местные жители, ну, когда вот начали грабить... костер разложили, книги палили... А потом появились умные люди и... прекратили это все. А здесь—так красиво-красиво было. Все дорожки, цвет... Аллейки красивые, дорожки обсаженные были вербами... Вербы—срезали. А потом колхозу передали. Землю... разрыли страшно. Палили деревья... И так было страшно....».

Разбуралі храмы, палілі кнігі, нявечылі зямлю. І было гэта не толькі ў гады разрухі, але і зусім-зусім нядаўна.

Паўразбураны замак у Косаве. Мясцовы жыхар расказвае, што замак спалілі партызаны пасля адступлення немцаў. А потым спатрэбілася некаму цэгла. Прыехалі на машынах, сцены ўзарвалі, што змаглі—павезлі. А тое, што засталося, пачалі расцягваць жыхары навакольных вёсак. У рэшце рэшт знішчылі і старадаўні парк—дрэвы зрэзалі, пабудавалі кароўнікі.

І ці так ужо дзіўна і незразумела, што ў нашы дні каторы год не могуць правесці неабходную, ашчадную рэканструкцыю славутага парка ў Нясвіжы. Што ў Лынтупах адкормачны цэх забрудзіў цудоўную водную сістэму, пабудаваную разам з паркам архітэктарамі мінулага. Раней тут былі фантаны і клумбы, цяпер—сметнік. Што ў парку Альба (непадалёк ад Нясвіжскага) таксама смеццем завалілі крынічку. Што бязглузда, неахайна вядуць рэканструкцыю помнікаў культуры, звязаных з імем Францішка Багушэвіча (Кушляны) і Ільі Рэпіна (Здраўнёва).

Стваральнікі дакументальнага фільма, зразумела, не робяць адкрыццё, паказваючы нам «мерзость запустения» ў розных кутках Беларусі. Апошнім часам з'явілася шмат кіна- і тэлефільмаў, перадач, карэспандэнцый у друку і асабліва чытацкіх пісьмаў, аўтары якіх б'юць трывогу, заклікаюць узяць пад сапраўдную ахову тое, што нібыта «ахоўваецца дзяржавай»—унікальныя помнікі гісторыі і культуры, помнікі прыроды, паркі, сады, асобныя дрэвы.

І ўсё ж кінакадры, знятыя ў Лошыцкім, і Гомельскім, Нясвіжскім і Залескім парках, у Бешанковічах, Косаве, Станькаве, Кушлянах, Здраўнёве, іншых гістарычных мясцінах, складаюцца ў запамінальную і ўражваючую карціну. Іншы раз праўда, здаецца, што яна нават перагружана. Імкненне аўтараў прыцягнуць як мага больш выяўленчага матэрыялу, змясціць па-больш інфармацыі зразумела, але часам яно перашкаджае цэласнасці ўспрыняцця фільма.

Тым не менш, кампазіцыйную стройнасць дапамагаюць захаваць фрагменты паэмы французскага паэта эпохі класіцызму Ж. Дэліля «Сады» (вершы за кадрам чытае аўтар фільма) і музыка «Полацкага сшытка» ў выкананні ансамбля «Кантабіле».

Цудоўная музыка, вершы, якія гучаць на здзіўленне сучасна, карціны Язэпа Драздовіча самі па сабе нясуць моцны эмацыяльны зарад. Але галоўнае, што гэты эмацыяльны зарад адпавядае агульнаму настрою кінафільма. Разбураныя, знявечаныя сцэны архітэктурных помнікаў на экране, пасечаныя дрэвы, кучы друзу і смецця ў занядбаных парках, паваленыя надмагільныя помнікі і крыжы—не проста кінадакумент. Фільм не проста паказвае рэчы такімі, як ёсць (хоць і гэта важна), не проста фіксуе сляды сучаснага варварства, яго аўтары робяць спробу асэнсаваць стан рэчаў, каб знайсці выйсце. Яны імкнуцца адысці ад звычайнага апісальніцтва, узняцца над эмпірыкай і ўключыць асэнсаваны факт у кантэкст не толькі сучаснасці, але і мінулага, і будучыні.

«В парках старинных...» напоўнены і трывогай, і надзеяй. Ці зможам мы захаваць нашы старадаўнія паркі, частку нашага культурнага генафонду? Фільм не дае адказ на гэтае пытанне. Ды і ці можна даць на яго адказ сёння? Можна з жалем канстатаваць: садова-паркавае мастацтва як феномен культуры эпохі класіцызму і рамантызму, як асаблівы стан душы мастака, як стан узаемаразумення чалавека і прыроды, ураўнаважанага светапогляду—прадмет вывучэння гісторыкаў і мастацтвазнаўцаў. Мы можам сёння толькі спрабаваць аднавіць творы мастацтва нашых продкаў, як аднаўляюць выявы дыназаўраў археолагі паводле рэшткаў-скамянеласцяў.

Мінулае не вернеш. Гэтая простая думка міжволі ўзнікае, калі глядзіш фільм пра старадаўнія паркі. Але можна і трэба—гавораць яго стваральнікі—захаваць тое, што ёсць, што ўцалела пад націскам часу і безгаспадарчасці, але імкліва знікае на нашых вачах.

Такая надзея, як ужо гаварылася, у фільме гучыць. Аднак яна выказваецца ўскосна, не праз выказванні тых або іншых удзельнікаў фільма ці праз дыктарскі тэкст. Яна заключаецца ў некаторых героях карціны. Мы можам успомніць тут намесніка дырэктара Цэнтральнага батанічнага сада АН БССР, кандыдата біялагічных навук А. Т. Федарука, кандыдата тэхнічных навук Я. П. Цярэшку, якія сталі ўдзельнікамі своеасаблівага «круглага стала» ў ходзе фільма. Гэта дырэктар сярэдняй школы ў Опсе Э. Хвяцковіч. Гэта захавальніца славутага Паўлаўскага парку пад Ленінградам М. А. Фліт.

У фільме ўдзельнічае шмат людзей. Ён наогул, так бы мовіць, густа населены. У абмеркаванні за тым жа «круглым сталом» прымаюць удзел і намеснік міністра і старшыня выканкома і архітэктар. Усе яны мелі магчымасць выкласці свае аргументы, сваё разуменне праблем. Ды ўсё ж такі не спрэчкамі спецыялістаў, думаецца, запомніцца фільм гледачам.

У кожнага, зразумела, могуць быць свае асацыяцыі, сваё ўспрыняцце ўбачанага. Аўтару гэтых радкоў сярод многіх важных эпізодаў і эфектных планаў асабліва запалі ў душу звычайныя на першы погляд кадры: у грузавых машынах вязуць свежаспілаваныя дрэвы. Чамусьці ўявілася, што на месцы тых дрэў—людзі 20—30-х. Людзі, вырваныя з жыцця, адарваныя ад зямлі, ад блізкіх, бездапаможныя перад грубай сілай. Паркі без дрэў, дрэвы без каранёў, людзі без гісторыі...

Ці ажывуць карані ў разаранай плугам рэпрэсій і бяспамяцтва зямлі? Можа быць, адказ, дакладней—надзею на яго даюць радкі, што гучаць у фільме: «В природе ведь идет подспудное броженье. В ней что-то тайное растет, стремясь к рожденью... Ей надобно помочь! Послушай, посмотри, старайся угадать, что зреет там, внутри...»

Гэтыя словы гучаць амаль у самым фінале фільма. Відаць, яны маглі б быць да яго і эпіграфам.

**В. ТРАВЕНЬ.**

# УЗНАЎЛЕННЕ СТАРАЖЫТНЫХ КАФЕДР

**Мітрапаліт Беларускі Філарэт у час набажэнства ў Мінскім кафедральным саборы ў дзень усіх святых зямлі беларускай зрабіў паведамленне, што рашэннем Свяшчэннага сіноду Рускай праваслаўнай царквы па благаславенню патрыярха Пімена ўзноўлены тры старажытныя беларускія біскупствы: кафедры Полацкая і Віцебская, Магілёўская і Мсціслаўская, Пінская і Брэсцкая. Першым будзе прызначаны біскуп на адну з самых старэйшых кафедр—Полацкую. Хіратонія мае адбыцца 23 ліпеня ў старажытным Жыровіцкім манастыры. У хіратоніі прыме ўдзел патрыярх Антыяхійскі Ігнаці IV. За ўсю гісторыю Беларусі гэта будзе другі прыезд патрыярха: раней, перад 1000-годдзем Хрышчэння, па запрашэнні мітрапаліта прыязджаў патрыярх Канстанцінопальскі Дзмітры I.**

**Усе гэтыя справы не толькі царкоўныя, але і гістарычныя, бо ўзнаўляюцца старажытныя духоўныя цэнтры нашага народа. Так, да прыкладу, Полацкая кафедра доўгі час была апорай праваслаўя і славянскіх царкоўна-асветніцкіх традыцый на Захадзе. Мела такую хрысціянскую святыню, як Эфескі абраз Багамацеры, падараваны Візантыйскай царквой па просьбе ігуменні Полацкай Ефрасінні, славутыя прыгажосцю храмы. Біскупства садзейнічала стварэнню унікальных кніжных скарбаў Сафійскага сабора і Іаана Прадцечанскага манастыра, асвеце краю, вытокі якой у дзейнасці Ефрасінні Полацкай, што не толькі заснавала першы жаночы манастыр, але і арганізавала ў ім школу для дзяўчынак па перапісцы кніг.**

**В. ДЫШЫНЕВІЧ.**

## А Б'Я В Ы



## У «КНІГАРНІ ПІСЬМЕННІКА»

**М. ГЕРЧЫК.** Вяртанне да сябе. Раман. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1 р. 70 к.

**А. ГУРСКІ.** З любоўю да народа. Мн., «Навука і тэхніка», 1989.—15 к.

**Г. КАРЖАНЕЎСКАЯ.** Сінічка на балконе. Мн., «Юнацтва», 1989. — 15 к.

**У. МАЗГО.** Калі спрачаюцца маланкі. Мн., «Юнацтва», 1989. — 15 к.

**Г. ЮРЧАНКА.** Негабляваная пегасня. Мн., «Мастацкая літаратура», 1989. — 1р.


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах,

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

АТ 00294 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Індэкс 63856 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.